

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 524 Верасень 2006
Год выданьня 56

## Паседжаньне Прызыдыюму Рады БНР



**У Нью-Ёрку 12 жніўня ў памешканьні Фундацыі імя Крэчэўскага пад старшынствам Івонкі Сурвіллы адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР.**

Паседжаньне пачалося са справаздачы Старшыні. "У апошні час сапраўды зьмяніліся адносіны сьвету да нашага краю, – адзначыла Івонка Сурвілла. – Калі яшчэ зусім нядаўна было "палітычна карэктна" размаўляць з заходнімі палітыкамі толькі пра парушэньне правоў чалавека лукашэнкаўскім рэжымам, дык цяпер заходнія палітыкі разумеюць тэму важнасьці захаваньня незалежнасьці Беларусі". Спадарыня Сурвілла распавяла пра ліст ад былога амбасадара ЗША ў Беларусі Джорджа Крола, у якім ён выказвае ўпэўненасьць у падтрымцы Злучанымі Штатамі беларускай незалежнасьці.

У апошнія месяцы Івонка Сурвілла правяла шэраг важных палітычных сустрэчаў і брала ўдзел у некалькіх акцыях на карысьць падрымкі дэмакратыі ў Беларусі. Пры абмеркаваньні палітычнай сытуацыі адзначалася, што падчас саміту лідэраў краінаў "вялікай васьмёркі", нягледзячы на папярэднія заявы некаторых палітыкаў, пытаньне Беларусі не было ўзьнятае, яно закраналася толькі на сустрэчы міністраў замежных справаў. Аднак галоўная прычына гэтага палягае ў абвастрэньні сытуацыі на Блізкім Усходзе (якое, фактычна, было выгоднае расейскаму прэзыдэнту Пуціну, бо адразу-ж пераключыла ўвагу ўсясьветных лідэраў з праблемаў адсутнасьці дэмакратыі ў Маскве і Менску на канфлікт Ізраілю і Лібану).

Разам з тым, кантакты з палітыкамі пацьвярджаюць больш глыбокае разуменьне на Захадзе спэцыфікі сытуацыі вакол Беларусі. Дзейнасьць Рады БНР дае плён. "Сёньня ўжо мала каму трэба даказваць неабходнасьць абароны беларускай незалежнасьці і марнасьць спадзяваньняў на Маскву як на "дэмакратызатара" Беларусі" – адзначыла Івонка Сурвілла і прывяла прыклад пазыцыі канадыйскага ўраду, які праз свайго міністра замежных справаў стаўся галоўным абаронцам дэмакратыі на паседжаньні міністраў замежных справаў 29-га чэрвеня ў Маскве.

Карэктуе сваё стаўленьне да Беларусі, хаця і ня так хутка, як хацелася-б, і кіраўніцтва Эўрапэйскай камісіі. Па словах спадарыні Сурвіллы, далі плён і шчыльныя кантакты з палітыкамі Канады, якая цяпер непараўнальна больш актыўна выступае ў абарону дэмакратычных каштоўнасьцяў ў Беларусі.

Намесьнік Старшыні Рады Сяргей Навумчык распавёў пра візыт у Аўстралію. Ён адзначыў, што Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла была цёпла прынятая ў беларускіх асяродках у Сыднэі, Мэльбурне і Адэляйдзе. Актывісты дыяспары ў Аўстраліі былі праінфармаваныя пра падзеі ў Беларусі і дзейнасьць Рады. Аўстралійскія беларусы не павінны адчуваць сябе "на пэрэфэрыі" беларускай справы, яны могуць шмат зрабіць ў тым ліку і для падтрымкі культурніцкіх і кнігавыдавецкіх праекаў (і, дарэчы, шмат робяць, як спадарыня Вольга Качан і спадар Міхась Лужынскі).

Вячка Станкевіч прадставіў інфармацыю пра сустрэчы ў Дзяржэпартамэнце ЗША, а таксама пра падтрымку ініцыятывы былога амбасадара Дэвіда Сўорца, які стварыў беларускі дасьледчы цэнтар. На паседжаньні Прэзыдыюму Рады гаварылася пра арганізацыю падтрымкі новага Акту аб дэмакратыі ў Беларусі, які мусіць прыняць Кангрэс ЗША.

На паседжаньні абмяркоўвалася пашырэньне сфэры дзейнасьці Рады ў галіне культуры і адукацыі. Доўгі час асноўная дзейнасьць Рады палягала ў палітычнай сфэры (уплыў на ўрады краінаў, сустрэчы з палітыкамі, удзел у канфэрэнцыях і г. д.), і гэта будзе працягвацца надалей. Аднак узмацненьне наступу на беларускасьць з боку рэжыму Лукашэнкі (зьнішчэньне беларускага школьніцтва, звужэньне сфэры ўжытку беларускай мовы, татальны перавод дзяржаўных СМІ на расейскую мову) вымагаюць ад Рады БНР больш надаваць увагі праблеме захоўваньня нацыянальных каштоўнасьцяў на Бацькаўшчыне. Напрыклад, сёньняшнія часы ў пэўным сэнсе ўсё больш нагадваюць пэрыяд 50-70 гадоў, калі шэраг аўтараў мог быць надрукаваны толькі ў эміграцыі. Спрыяць культурніцкім праектам Рада БНР мае намер сумесна зь беларускімі фондамі, якія ўтвораныя дыяспарай. Так, Фундацыя Орса-Романо ў апошнія гады выдаткавала на адукацыйныя і выдавецкія праекты некалькі дзясяткаў тысячаў даляраў. Кіраўніца

*Заканчэньне на бачыне 16*

## Віншуем



***шаноўнага др. Янку ЗАПРУДНІКА, выбітнага дзеяча беларускай эміграцыі, шматгадовага рэдактара газэты "Беларус", з 80-мі ўгодкамі зь дня нараджэньня. Жадаем моцнага здароў'я, посьпехаў у справах і ў асабістым жыцьці.***

## Акт аб дэмакратыі ў Беларусі на 2007-08 гады

27-га ліпеня быў прадстаўлены ў Кангрэсе ЗША законапраект аб працягу дзеяньня Акту ў падтрымку дэмакратыі ў Беларусі на наступныя два гады пад назовам **H.R.5948 Belarus Democracy Reauthorization Act of 2006.**

**Мэта Акту – падтрымка дэмакратыі, правоў чалавека і вяршэнства закону, як і ўзмацненьне сувэрэнітэту і незалежнасьці Беларусі.**

**У аднаўленым Акце прапануецца выдзяленьне $20 мільёнаў штогод на падтрымку недзяржаўных арганізацыяў.**

**Прапануецца выдзяленьне $7,5 мільёнаў штогод на замежнае радыё, тэлевяшчаньне ў Беларусь.** Таксама прапануецца пашырэньне санкцыяў супраць беларускага рэжыму.

Дзеля таго, каб Акт аб дэмакратыі ў Беларусі быў прыняты як найхутчэй (магчыма, яшчэ ў гэтым годзе), трэба, каб Акт падтрымалі як найбольш суспонсараў у Кангрэсе, пажадана каля 30. А гэта вельмі залежыць ад актыўнасьці беларускага грамадзтва ў Амэрыцы й амэрыканцаў-прыяцеляў Беларусі.

**Заклікаем Вас далучыцца да плянаванай акцыі і гэткім чынам укласьці долю ў абарону незалежнасьці Беларусі!** Сваё зацікаўленьне і жаданьне атрымліваць далейшую інфармацыю аб тым, што трэба рабіць, калі ласка, прышліце электроннай поштай на адрас: ***Bel_Coalition@yahoo.com*** або поштай на адрас газэты "Беларус":
***BIELARUS, P.O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735***

Contact your Representatives in Congress by e-mail, fax and telephone, and urge them to cosponsor the Belarus Democracy Reauthorization Act H.R. 5984. See site **www.Congress.org** to locate your Representatives' information. By e-mail refer to Foreign Policy, and by phone, contact the Foreign Policy staff member.

You may use such sample text:

***Please help bring democracy to Belarus — cosponsor the Belarus Democracy Reauthorization Act, H.R. 5948 (BDRA)***

***The need to continue our support for democracy in Belarus is now even greater.*** *The BDRA authorizes material support for the next two years for a variety of democracy-building activities. It also authorizes support for radio and television broadcasting into Belarus, in order to overcome the regime's information blockade. Finally, it supports the imposition of sanctions against the regime, including for all those responsible for fraudulent elections and arrests and imprisonment on trumped-up charges.*

***The people of Belarus deserve your support in establishing democracy and the rule of law!***

# Пікет у падтрымку “Партнэрства”

Перад будынкам, дзе месьціцца кансулят Беларусі на 3-й Авэню, 28 ліпеня прайшла акцыя падтрымкі чатырох актывістаў незарэгістраванай арганізацыі “Партнэрства”, Цімоха Дранчука, Мікалая Астрэйкі, Эніры Браніцкай і Аляксандра Шалайкі. У гэты дзень у Менску пачынаўся суд над сябрамі “Партнэрства”, уся віна каторых складаецца ў тым, што яны рыхтавалі назіраньне за прэзыдэнцкімі выбарамі 19 сакавіка. Чатыры сябры партнэрства былі арыштаваныя і абвінавачаныя ў “падрыўной дзейнасьці”.

Ніхто ў Беларусі ня мае ілюзіяў што да лукашэнкавай “юстыцыі”, і што да аб’ектыўнасьці прызначаемых дыктатарам судзьдзяў. Дзеля гэтага па шмат якіх гарадох Беларусі й сьвету 28 ліпеня праходзілі акцыі салідарнасьці. Адной з такіх і стала акцыя ў Нью Ёрку, у якой узялі ўдзел і сябры беларускай грамады з Вашынгтону, якія зь беларускімі сьцягамі й плякатамі сабраліся каля кансуляту Беларусі. Удзельнікі акцыі гукалі лёзунгі, раздавалі мінакам улёткі, што тлумачылі мэты акцыі.

*Зьміцер ПАРЭЦКІ*




Удзельнікі пікету ля кансуляту Беларусі.

# Цэнтар беларускіх дасьледаваньняў у ЗША

Ужніўні сёлета ў Злучаных Штатах Амэрыкі распачаў сваю дзейнасьць Цэнтар беларускіх дасьледаваньняў. Статутныя дакумэнты аб утварэньні такога Цэнтру былі падпісаныя 11 ліпеня 2006 году віцэ-прэзыдэнтам Саўтвэстэрн-каледжу Эндры Шэпардам (г. Вінфільд, Канзас) і былым амбасадарам ЗША ў Беларусі Дэйвідам Суорцам. Афіцыйная цырымонія адкрыцьця Цэнтру заплянаваная на лістапад бягучага году.

Стварэньне Цэнтру беларускіх дасьледаваньняў – гэта супольная ініцыятыва Саўтвэстэрн-каледжу і Фундацыі Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту, якую дзесяць год таму заснаваў і прэзыдэнтам якой зьяўляецца выпускнік Саўтвэстэрн-каледжу Амбасадар Суворц. Мэтай Фундацыі была падтрымка ЭГУ, пакуль унівэрсытэт ня быў зачынены беларускімі ўладамі ў 2004 годзе. Зараз Фундацыя ЭГУ спыняе сваё існаваньне і перадае сваю маёмасьць новаўтворанаму Цэнтру беларускіх дасьледаваньняў.

Як паведаміў сп. Суорц, асноўнай задачай Цэнтру будзе адраджэньне беларускай нацыі праз вышэйшую адукацыю. Плянуюцца, што Цэнтар стане вядучым асяродкам беларускіх дасьледаваньняў у ЗША, дзе будуць зьбірацца дасьледчыкі, студэнты, прадстаўнікі беларускай дыяспары, а таксама прадстаўнікі дзяржаўных і грамадзкіх арганізацыяў, унівэрсытэтаў, бібліятэкаў, урадаў і ўсе тыя, хто адданыя справе пабудовы дэмакратычнай Беларусі. Цэнтар будзе падтрымліваць навуковыя дасьледаваньні і іншую дзейнасьць на карысьць Беларусі.

Цэнтар будзе запрашаць дасьледчыкаў і студэнтаў зь Беларусі і іншых краінаў наведаць Саўтвэстэрн каледж, дзе ў іх будзе магчымасьць весьці навуковыя дасьледаваньні, выступаць зь лекцыямі і сустракацца зь мясцовымі грамадзкімі арганізацыямі. Ужо ў гэтым месяцы Цэнтар прыме першага дасьледчыка зь Беларусі, які правядзе ў Саўтвэстэрн каледжы цэлы акадэмічны год. Беларускія студэнты атрымаюць магчымасьць праходзіць акадэмічныя стажыроўкі на базе каледжа. Цэнтар будзе садзейнічаць пашырэньню ведаў пра Беларусь праз публікацыю навуковых працаў у друкарні каледжа. Таксама плянуецца, што Цэнтар распрацуе і прапануе амэрыканскім студэнтам шэраг акадэмічных курсаў, прысьвечаных Беларусі.

Па словах Амбасадара Суорца, Цэнтар зацікаўлены ў супрацоўніцтве з арганізацыямі й асобамі зь Беларусі, а таксама беларусамі, якія жывуць за мяжой. Так, напрыклад, ужо адбылася сустрэча з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў ЗША, якія падтрымалі ідэю стварэньня Цэнтру. Вітаўт Кіпель адзначыў, што дыяспара, у прыватнасьці, дапаможа Цэнтру ў стварэньні беларускай бібліятэкі.

*Радыё Свабода*

# Сустрэча з маладзёвымі лідэрамі зь Беларусі

Угрaмадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага 28 ліпеня адбылася сустрэча з маладзёвымі лідэрамі зь Беларусі. У сустрэчы прынялі ўдзел сп.сп. Віталь Броўка зь Віцебску, старшыня моладзёвай ініцыятывы Паўночнай Беларусі “Новая плынь”; Зьміцер Дашкевіч зь Менску, су-старшыня “Маладога Фронту”; Ільля Заранок з Горак, сябар рады зьліквідаванага ўладамі Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў; Сяргей Сахараў зь Менску, рэдактар студэнцкага часапісу у сеціве “Студэнцкая думка”. Мікіта Сасім, былы кіраўнік арганізацыі “Зубр”, нажаль ня змог прыйсьці на сустрэчу.

Напачатку госьці прадставіліся, і кожны зь іх коратка паведаміў пра сябе і сваю дзейнасьць, зацікаўленьні. Затым прайшла шчырая гутарка, у ходзе якой прысутныя шмат даведаліся пра падзеі апошніх месяцаў у Беларусі, пра дзейнасьць недзяржаўных маладзёвых арганізацыяў, пра змаганьне апазыцыі супраць рэжыму Лукашэнкі.

Прысутных найбольш цікавілі настроі моладзі й грамадзтва наагул пасьля прэзыдэнцкіх выбараў, пляны апазыцыі. Госьці распавялі пра свой досьвед удзелу ў падзеях “гарачага сакавіка”, пра рэпрэсіі ўладаў, пра мужнасьць маладых людзей, што падтрымліваюць дэмакратычныя і нацыянальныя каштоўнасьці. Сп. Сахараў распавёў пра дзейнасьць у межах мэдыя-праекту “Студэнцкая думка”, асаблівасьці працы пасьля канфіскацыі праз КГБ папяровага накладу часапісу “Студэнцкая думка” і спыненьня ягонага выхаду ў друкаванай форме. Цяпер часапіс выходзіць на кампакт-кружэлках, ды ў іншых сучасных, у тым ліку сеціўных, фарматах. Было паведамлена аб праектах “Рабі сябе сам”, “Рабі сябе сам-2”. Сп. Сахараў адзначыў, што нават ва ўмовах сёньняшняй аўтарытарнай улады ў Беларусі людзі актыўныя ды энэргічныя могуць весьці працу з моладзьдзю, і вядуць яе.

Сп. Броўка спыніўся на нядаўніх падзеях падчас прэзыдэнцкіх выбараў і падкрэсьліў ролю моладзі ў іх. “Тыя людзі, што мусілі ўзяць адказнасьць на сябе, пасьці за сабою — не заўсёды сьпяшаліся гэта зрабіць. Таму моладзь стала арганізоўвацца сама, аднак гэта было расьцягнута ў часе, і эфэктыўнасьць праз гэта была ня тая, якую дала-б грунтоўная папярэдняя падрыхтоўка. Нажаль, і гэтая хваля не была напоўніцу выкарыстаная.” Цяпер падзеі ў Віцебску, зьвязаныя з жорсткім перасьледам сябраў руху супраціву “Бунт”, завядзеньнем крымінальнай справы паказваюць, што ўлада досыць сур’ёзна ставіцца да пратэстнага патэнцыялу моладзі, ды імкнецца ня даць яму пашырыцца.

Сп. З. Дашкевіч адзначыў, што падзеі вясны гэтага году паказалі, што расьце новая эліта, якая здольная ўзяць на сябе адказнасьць, і здольная паразумецца з іншымі палітычнымі сіламі. Прычым адбываецца павольная беларусізацыя “агульнадэмакратаў”, людзі пачынаюць больш ужываць беларускую мову, актыўна карыстаюцца нацыянальна сымболікай.

Сп. Заранок распавёў пра асаблівасьці працы ў малых гарадох і мястэчках, дзе ціск на працінікаў рэжыму ажыцьцяўляецца ўладамі найбольш жорстка і брутальна. Але, нягледзячы на гэта, заўсёды застаюцца формы працы, праз якія можна эфэктыўна кантактаваць зь людзямі, з моладзьдзю і пераконваць у неабходнасьці падтрымкі дэмакратычных і нацыянальных каштоўнасьцяў. “Мы тлумачым простымі словамі й паняцьцямі — што ня будзе лепшага жыцьця, калі ня будзе свабоды”.

У сваю чаргу госьці пыталіся пра беларускую грамаду ў Амэрыцы, пра дзейнасьць тутэйшых беларусаў і пэрспэктывы працы з моладзьдзю, якая прыяжджае ў ЗША. Размовы пасьля сустрэчы былі працягнутыя ў вузейшым нефармальным коле.

*Віталь ЗАЙКА*



З. Дашкевіч, С. Сахараў, І. Заранок, В. Броўка падчас сустрэчы.

# Колькі нас? Дзе мы?

Мова ідзе пра нас, выгнаных некалі з роднай Беларусі. Уладзімер Арлоў празваў мяне Птушатнікам. Люблю жаваранка, салаўя, бусла дый шмат іншых, што ўзгадоўвалі мяне ў Верацеях недалёка ад Бярэзінскага запаведніку.

Таронта, найбольшы канадыйскі горад, некалі прыняў мяне ў сваёй фабрычнай індустрыі. Працаваў на будаўніцтве сельскагаспадарчых камбайнаў ды іншых прадпрыемствах. Дзякую калегам і ўдзельнікам арганізаванага беларускага жыцьця. Цяпер вось старасьць кліча яшчэ раз наведаць бацькаўшчыну. Ці магчыма гэта пры цяперашнім "дэмакратычным" урадзе Лукашэнкі?

Малюся і прашу ўсіх суродзічаў і адпаведныя суседнія дзяржавы, каб падтрымалі дэмакратычных людзей, каб нарэшце адхіліць варожую і ўдушлівую для дэмакратычнага ладу Маскоўшчыну.

Як-жа адказаць на пытаньні: хто мы, і дзе мы? Сёньняшнія ўцекачы ад Лукашэнкі, што ўжо між нас хаця-б тут у Таронце і ваколіцах пасяліліся, у нашым мясцовым беларускім жыцьці ня выявілі ніякай беларускай сьведамасьці. А як-жа арыентаваліся нашыя продкі?

На гэтае пытаньне знаходзім добры адказ у кнізе Р. Семашкевіч "Беларускі літаранурна-грамадскі рух у Пецярбургзе". Мова там ідзе пра канец XIX—пачатак XX ст. ст. "Дунін-Марцынкевіч піша пра сваю паездку на Магілёўшчыну як пра паездку на Беларусь. ...Астатнія беларускія землі, іх жыхары і мова называліся літоўскімі (адгэтуль і назвы таго часу – Мінск-Літоўскі, Брэст-Літоўскі, Палессе Літоўскае ў адрозненні ад Украінскага). Нездарма ў тых жа самых матэрыялах перапісу ёсьць наступны падзел прадстаўнікоў літоўскіх і латышскіх моў у Пецярбурзе: літоўская мова – 3657 чалавек; жмудская – 93; латышская – 4391. Жмудская – ні што іншае, як літоўская ў нашым сённяшнім разуменні, а літоўская – мова беларусаў Гродзенскай, часткова Мінскай і Віленскай губерніяў."

Я заклікаю ўсіх, ці хоць бальшыню Беларусаў у Таронце ісьці да нас.

**Прашу перадаць ад сябе і Згуртаваньня Беларусаў Канады вітаньне сёлетняй Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, арганізацыямдзельнікам і запрошаным гасьцям.**

**Няхай жыве хутка аднойленая Беларуская Народная Рэспубліка**

**Кастусь АКУЛА**



**Кастусь Акула прамаўляе на мітынгу ў сквэры Янкі Купалы ў Менску 27 ліпеня 1992 году.**

***Кастусь Акула быў першым старшынём Галоўнай управы ЗБК. І-я Сустрэча Беларусаў Паўн. Амэрыкі адбылася з удзелам суродзічаў з Канады й ЗША ля Ніягары на канадыйскім баку мяжы.***

***Сп. К. Акула жыве ў Таронце, яму летась ў лістападзе было 80 гадоў.***

# Здаровы лад жыцьця

***Як зьберагчы здароўе ў штодзённым рытме***

Прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі Джордж Буш неадназова з гонарам называе сваю нацыю "самай працавітай у сьвеце". Хоць можна й запярэчыць, сказаўшы, што амэрыканцы гультаі, але аб працоўным рытме ў Амэрыцы вядома ўсім. Асабліва гэта заўважна ў асяродку імігрантаў, у прыватнасьці беларусаў. Акрамя культуры, якая прапаведуе працу, ураджэнцы Беларусі атрымалі досьвед жыцьця на пост-савецкае прасторы, дзе даводзілася круціцца ўдвая, каб пасьпяваць за раптоўнымі пераменамі.

Радыё Свабода гаварыла, што ў Польшчы вельмі занятыя людзі могуць пайсьці ў кляштар ды, прыняўшы манаскі лад жыцьця, правесьці там нейкі час у спакоі ды "падумаць аб сэнсе жыцьця".

Некаторыя буйныя кампаніі ствараюць дэпартамэнты, якія адказваць за карпатыўны дабрабыт "Corgorate Wellness". Некаторыя наймаюць прафэсыйных трэнераў, якія займаюцца фізычнымі практыкаваньнямі з працоўнымі, калі тыя маюць перапынак. Ідэя ў тым, каб праз правільна размеркаваныя нагрузкі зьнізіць напружанасьць у целе, якую выклікаюць стрэсы на працы ды сядзеньне на адным месцым. Трэнер праводзіць заняткі, якія дапамагаюць сардэчна-сасудзістай сыстэме ды садзейнічаюць расслабленьню. Паводле дасьледваньняў, вынікі такой практыкі выдатныя, і гэта робіць індустрыю працоўнага адпачынку вельмі абяцаючай.

Дарэчы, ёсьць некалькі буйных карпарацыяў, якія аказваюць паслугі такога кшталту працоўным у іншых кампаніях. На інтэрнэтнай староньцы адной зь іх, HFC, я знайшоў інфармацыю аб характары працы, якую праводзяць трэнеры: здаровы лад жыцьця на працы й дома, праграмы па правільнаму харчаваньню й зьніжэньню вагі, практыкаваньні па паляпшэньню функцыі сардэчна-сасудзістай сыстэмы. Пасьля такога перапынку сапраўды адчуваецца адпачынак – павялічваецца прадуктаўнасьць працы й цікаўнасьць да яе, падымаецца настрой. Такія важныя псыхалягічныя складнікі ўлічваюцца працадаўцамі. Было высьветлена, што прапагандаваньне здаровага ладу жыцьця на працоўным месцы абходзіцца значна таньней за мэдыцынскія паслугі.

Як вядома, у ЗША мэдычныя паслугі вельмі дарагія. Фэдэральныя ўлады, праўда, выдаткоўваюць вялікія сродкі для дапамогі насельніцтву ў гэтай сфэры. Але было-б нашмат эфэктыўней, калі-б дзяржава інвэставала ў праграмы, якія прапагандуюць здаровы лад жыцьця.

Тым ня менш усьведамленьне таго, што можна самому паклапаціцца аб сваім здароўі расьце. Прадстаўнікі сярэдняй клясы ўсё часьцей наведваюць трэнінгі, спартовыя залі; сочаць за сваім харчаваньнем (сыстэма хуткага прыгатаваньня ежы прапануе вялізарную колькасьць тлушчу й халестыролу). Высокую папулярнасьць набыла ёга.

Шмат унівэрсытэтаў таксама прапаноўваюць сваім студэнтам бясплатныя клясы па ёзе. Улічваючы стрэсавасьць жыцьця шэраговага студэнта ад навучаньня й працы, ёга й іншыя спосабы практыкаваньняў ім вельмі дарэчы.

Актыўны адпачынак такога кшталту ёсьць напрамкам, які хутка разьвіваецца, і патрэба ў кваліфікаваных трэнерах і студыях расьце й расьце. Таму такі род дзейнасьці быў-бы пэрспэктыўным накірункам у бізнэсе для нашых землякоў. Перакладаў кніг па здаровы лад жыцьця на беларускую мову вельмі мала, а пра ёгу можна і наогул не шукаць.

Хуткабежнае жыцьцё ў сучасным сьвеце вельмі цікавае, але й вельмі напружанае. Размяркаваньне нагрузкі з адпачынкам ёсьць неабходнасьцю, важнасьць якой можа быць недаацэненая спачатку. Ня мае значэньне, ці вы наведваеце кляштар ці клюбы актыўнага жыцьця, а можа і ўсё разам, галоўнае, каб гэта спрычынілася да паляпшэньня вашага здароўя, фізычнага й духоўнага.

***Антось УЗГОРНЫ, Флёрыда***

# Па віленскім ваколіцам

Група сяброў Таварыства Беларускай Культуры ў Літве ўжо была ў падарожжах па Беларусі, а нядаўна вырашылі й адправіліся ў падарожжа тут, недалёка ад Вільні, усяго ў абсягу амаль трыццаці каляметраў. Кіроўцам быў сп. Хведар Ньнька. Калі сядзіш з ім побач, то адчуваеш упэўненасьць, – ёнжа шафёр з некалькі дзесяткагадовым досьведам!

Едзем кампаніяй у кірунку Майшаголы. Дарэчы, назва гэтай мясцовасьці ў перакладзе зь летувіскай мовы азначае мішок і канец, а разам атрымліваецца канец мяшка. Прыяжджаем. Яшчэ раніца. У мястэчку нас сустракаем сп. Язэп Русакевіч. Ён шмат ведае пра гісторыю гэтага краю, падарожнічаў. Мы ходзім, а парадаваць вока няма чаму – усюды занапад, руіны, разбураныя ня столькі часам, як рукамі чалавека. Сталоўка, пякарня, дом культуры (там у залі некалі былі скураныя крэслы, адбываліся сустрэчы на высокім узроўні, канцэрты)... Засталіся толькі шкілеты будынкаў, як акрэсьліў сп. Русакевіч: "Усё пад завалам." А я дадаю: "Сапраўднае "дно мястэчка". Назва адпавядае." У наш час тут няма нават лазьні! Год дзесяць таму яна была прададзеная ўсяго за 17 літаў (амаль $5) сваяку адной вельмі вядомай асобы. А ён ужо збыў гэты будынак за 40 000 літаў. Бізнэс.

Пакуль усё даволі змрочна. Нарэшце мы адыходзім ад зарослых хмызьняком рэштак будынкаў і падыходзім да месца, дзе неалі стаяў драўляны замак, які спалілі крыжакі. На гэтым месцы стаіць камень з надпісам: "Князь Вялікага Княства Літоўскага Альгерд 1293-1377." Майшагола – адзін з найстарэйшых населеных пунктаў Летувы. Тут яшчэ князь Ягайла збудаваў першы касьцёл. Вядома, што ён быў драўляны і ўжо даўно згарэў. Падчас Першай сусьветнай вайны на гэтай тэрыторыі адбываліся маштабныя баявыя дзеяньні. У выніку засталіся нямецкія магілкі, але калі пра гэта ня ведаеш, то гэта проста лясок, бо помнікі былі расьцягнаныя яшчэ пры савецкай уладзе.

Мы бярэм кірунак у бок лесу, прыкладна на адлегласьці двух кілямэтраў знаходзіцца месца захаваньня радыёактыўных рэштак. Пачалі іх складаць тут яшчэ ў савецкі час, а цяпер гэтую традыцыю прапягваюць. Ля ўваходу вельмі густа растуць скочкі. Іх часта садзяць на магілках, а тут яны растуць самыя. Краявіды тут надзвычай прыгожыя, а лясы на гэтым абшары вельмі грыбныя і ягадныя. Дукшты. Узгоркі, нізіны, рака Дукшта, мноства адценьняў зялёнага колеру, бусьлы ходзяць ля самай дарогі.

Цешым вочы ўсёй разнастайнасьцю прыроды. Спыняемся ў запаведным месцы – самым найвялікшым па плошчы дубняку, дзе растуць ня толькі дубы, але і іншыя дрэвы й хмызьнякі, якія сустракаюцца па ўсёй тэрыторыі Летувы. Ходзім драўлянымі сьцежкамі ад скульптуры да скульптуры. Гэта працы народных мастакоў, вялізныя драўляныя скульптуры язычніцкіх багіняў і багоў. На дрэвах заўважаем птушыныя домікі з двума дзірачкамі: адной маленькай круглай і другой падобнай на шчыліну з закругленымі краямі – гэта домікі для кажаноў. У Летуве жыве дзевяць відаў кажаноў, і сем зь іх жывуць у гэтым запаведніку. Бачым вялізны камень, абсыпаны дробнымі цэнтамі. Кожны з нас адшуквае дробязь і, як і тыя, хто былі тут да нас, кідае на камень ахвяру. Задуманыя жаданьні павінны збыцца! Дуброва пакінула ў нас добрае ўражаньне. Сюды нясорамна прыехаць нават з госьцем.

А пад канец падарожжа сп. Русакевіч вырашыў пазнаёміць нас з найстарэйшым у краіне ксяндзом, і мы коратка, але зьмястоўна гасьцявалі ў невялікім доміку ксяндза пралата Ёзэфа Абрэмскага. Зусім нядаўна ён адзначыў сваё 100-годзьдзе. Чытае сьвятар без акуляраў, мае сьветлую галаву і памяць, а таксама пра што і пра каго расказаць. На сьценах некалькі працаў пэндзля Пётры Сяргіевіча. Наўрад пра іх ведаюць гісторыкі мастацтва. З размовы высьветлілася, што ксёндз вельмі блізка сябраваў з мастаком, які зрабіў у Майшаголе два алтары. Доўга не надакучваем шаноўнаму чалавеку і разьвітваемся. Прыемна зьдзіўленыя, што ня трэба ехаць вельмі далёка, каб атрымаць новыя ўражаньні ды даведацца новага. Усё побач. Над намі плывуць лёгкія ліпеньскія воблачкі. На далягядзе Вільня.

***Крыстына БАЛАХОВІЧ***

# Беларусь за месяц

## Мясцовыя выбары

Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў Лідзія Ярмошына ў інтэрвію газэце "Звязда" аспрэчыла чуткі пра тое, што выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў пройдуць раней за заплянаваны тэрмін. Колькі месяцаў у недзяржаўнай прэсе прагназуецца, што выбары будуць перанесеныя на восень.

Кіраўнік Цэнтарвыбаркаму назвала гэтыя чуткі беспадстаўнымі. Яна заявілі, што выбары, які плянавалася, хутчэй за ўсё пройдуць у студзені. Самая імаверная дата — 14 студзеня. Скрайняя — 28 студзеня, паколькі тэрмін заканчэньня паўнамоцтваў дэпутатаў гэтага скліканьня заканчваецца 2 сакавіка, то выбары павінны быць праведзеныя за месяц да канца гэтага тэрміну: г. зн. 2 лютага.

Праўда, ва ўсёй гэтай сыстэме ёсьць адзін нюанс. Указ аб выбарах выдае прэзыдэнт. І ён павінен зьявіцца не пазьней як за тры месяцы да выбараў. Напрыклад, калі выбары хочуць прызначыць на 10 сьнежня, то ўказ трэба выдаць да 10 верасьня.

Тым часам розныя дэмакратычныя партыі па-рознаму ставяцца да будучай выбарчай кампаніі. Так, на сойме Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі — БНФ, было прынята рашэньне ўстрымацца ад удзелу ў мясцовых выбарах.

Сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Партыі камуністаў беларускай, і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) вырашылі ісьці на выбары супольна. У штабе Аляксандра Мілінкевіча і Партыі БНФ, здаецца, яшчэ не вызначыліся. Там разумеюць, што зарэгістраваць сваіх кандыдатаў будзе цяжка. Але выбары ў мясцовыя саветы, а менавіта хаджэньне па кватэрах, яшчэ адна магчымасьць нагадаць грамадзтву пра сваё існаваньне і альтэрнатыву лукашэнкаўскай Беларусі.

## Пакараньне за сьцяг

З 3 па 6 жніўня ў Бярозаўскім раёне (Берасьцейская вобласьць) прайшоў летнік "Рух добрай волі". Некалькі дзясяткаў маладых людзей зладзілі вандроўку па маляўнічых мясьцінах Бярозаўшчыны, а затым паставілі намёты ля аднаго з возёраў. Удзельнікі летніка ладзілі канцэрты, спартовыя спаборніцтвы, гутаркі вакол вогнішча. Таксама праводзілі інфармаваньне мясцовых жыхароў пра сытуацыю ў краіне (напрыклад, раздалі каля 1 000 асобнікаў незалежнага выданьня "Газета для вас").

Улады, у сваю чаргу, усяляк спрабавалі перашкодзіць вандроўнікам. Прыбылі на "месца дыслякацыі", перапісалі пашпартныя зьвесткі ўдзельнікаў летніку, пазьней не дазволілі далучыцца да іх іншым жадаючым, якія прыехалі з Менску.

5 жніўня быў затрыманы арганізатар "Руху добрай волі", кіраўнік Берасьцейскай абласной арганізацыі БНФ Юрась Губарэвіч. Дакладней, яму далі выбіраць: альбо арыштоўваюць яго, альбо разганяюць летнік. Малады чалавек вырашыў "здацца". У гэты-ж суботні дзень Юрыя адвезьлі ў суд Бярозаўскага раёну. Але адразу асудзіць яго не атрымалася — малады чалавек запатрабаваў адваката. Суд перанесьлі на 8 жніўня. Урэшце Ю. Губарэвіч быў асуджаны на 10 сутак адміністрацыйнага арышту за выкарыстаньне на тэрыторыі летніка незарэгістраванай сымболікі — бел-чырвона-белага сьцягу. 18 жніўня Юрась выйшаў на волю.

Між іншым летнік "Рух добрай волі" яшчэ адносна добра скончыўся. А вось летніку дзяцей пратэстантаў, што мусілі адпачываць на тэрыторыі аднаго прыватнага ўладаньня ў Смургоньскім раёне, не пашанцавала. 9 жніўня летнік быў у літаральным сэнсе разагнаны, а дзецей сілаю вернулі ў Менск. Іхныя бацькі зьбіраюцца падаваць скаргу ў пракуратуру на дзеяньні ўладаў Смургонскага раёну.

## Правакацыя РНЕ

Сакратар офісу Управы Партыі БНФ была моцна зьдзіўленая, калі раніцай прыйшла на працу і ўбачыла на дзьвярох офісу прыстасаваньне, якое нагадвала міну. Пазванілі ў міліцыю, тыя выклікалі сапёраў. Аказалася, што гэта быў муляж падобны да міны завадзкай вытворчасьці. Калі яго адкрылі, то ўсярэдзіне ўбачылі эмблему прафашысцкай арганізацыі Расейскае Нацыянальнае Адзінства (РНЕ), якая мае прыхільнікаў і ў Беларусі.

Невядомыя таксама выпэцкалі чорнай смалой дзьверы і шыбы офісу партыі. Міліцыя паабяцала знайсьці зламысьнікаў, тым больш што маецца картатэка з адбіткамі пальцаў сябраў РНЕ. Аднак кіраўніцтва Партыі БНФ мяркуе, што здарэньне ёсьць усяго толькі правакацыяй, якая ставіць на мэце пазбавіць партыю офісу ў цэнтры гораду.

На наступны дзень, 17 жніўня, беларускае аддзяленьне РНЕ выступіла з афіцыйнай заявай, што ніякага дачыненьня да "мінаваньня" дзявярэй Партыі БНФ ня мае.

## Партыю камуністаў ліквідуюць

Партыя камуністаў Беларуская апынулася пад пагрозай ліквідацыі: упраўленьнем юстыцыі Менгарвыканкаму закрываюцца сталічныя суполкі партыі. Прычына — парушэньне ў 1999 годзе нормаў ад 2005 году аб юрыдычных адрасах. Нагадаем, што ў 2005 годзе ў Беларусі было ўведзена патрабаваньне рэгістрацыі ўсіх палітычных партый толькі ў нежылым фондзе. На думку кіраўнікоў ПКБ (старшыня — Сяргей Калякін), рашэньне (стасаваць закон 2005 году да 1999 году) незаконнае і абсурднае. Але калі рашэньне ўпраўленьня юстыцыі пакінуць у сіле, ПКБ будзе ліквідаваная. Паводле Закону аб палітычных партыях, абавязковай умовай рэгістрацыі любой партыі зьяўляецца наяўнасьць у яе структураў у Менску і, як мінімум, у трох абласьцях.

## Сустрэчу не дазволілі

У жніўні ў Магілеў прыехаў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. Ён меўся сустрэцца зь мясцовым партыйным актывам, а таксама з палітвязьнем маладафронтаўцам Артурам Фінькевічам, які адбывае ў Магілеве "хімію" за нанясеньне на дзяржаўны плот палітычных графіці.

Каб не дапусьціць сустрэчу з палітвязьнем, апоўдні кіраўніцтва спэцкамэндатуры вывезла Артура Фінькевіча на працы за горад. Як не дабіваўся Анатоль Лябедзька і актывісты партыі сустрэчы з Артурам, яна так і не атрымалася. Не дапамог нават запіс у кнігу скаргаў. Хлопца вярнулі ў спэцкамэндатуру толькі позна ўвечары, пасьля таго як кіраўніцтва АГП зьехала ў Менск.

## Прысуд актывістам

Суд Цэнтральнага раёну Менску (судзьдзя Леанід Ясіновіч) пакараў актывістаў незарэгістраванай грамадзкай ініцыятывы "Партнэрства", якая мелася весьці назіраньне за прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі. Маладых людзей, якіх арыштавалі 21 лютага, вінавацілі ў кіраваньні арганізацыяй, якая замахваецца на правы і абавязкі грамадзянаў. Потым кіраўнік КДБ Сьцяпан Сухарэнка на прэс-канфэрэнцыі заявіў, што "дзякуючы" дзейнасьці актывістаў "Партнэрства" і агучаным імі лічбам экзыт-полаў павінны былі пачацца беспарадкі ў Менску. На той сумнавядомай канфэрэнцыі С. Сухарэнка сказаў, што плянуецца ўзарваць некалькі школаў у Менску, а таксама атруціць водную сыстэму горада здохлымі пацукамі.



*Аляксандар Шалайка*

Суд над актывістамі "Партнэрства" быў закрытым, на працэс не пускалі ні журналістаў, ні сваякоў, ні замежных дыпляматаў.

Мікола Астрэйка, меркаваны кіраўнік арганізацыі, асуджаны на два гады калёніі агульнага рэжыму, Цімафей Дранчук — на год калёніі агульнага рэжыму. Эніра Браніцкая і Аляксандар Шалайка — на паўгады арышту. Пракурор Андрэй Мігун патрабаваў тры гады (максымальны тэрмін) Міколу Астрэйку, і па два гады астатнім.



*Эніра Браніцкая*

Раніцай 21 жніўня выйшлі на волю Эніра Браніцкая і Аляксандар Шалайка. Пад мурамі сьледчага ізалятару ГУУС Менгарвыканкаму на Валадарскага, 2 іх віталі каля трох дзясяткаў чалавек: сваякі, калегі, журналісты. І Эніра, і Аляксандар адзначылі, што шэсьць месяцаў, якія яны правялі пад арыштам, праляцелі даволі хутка, і куды цяжэй было іхным сваякам, а цяпер — Міколу Астрэйку і Цімоху Дранчуку, асуджаным на даўжэйшыя тэрміны. Маладыя людзі не зьбіраюцца адмаўляцца ад грамадзкай дзейнасьці і паабяцалі ў найбліжэйшыя некалькі дзён склікаць прэс-канфэрэнцыю, каб праліць сьвятло на падзеі шасьцімесячнай даўніны.

## Цэны на газ

На прэс-канфэрэнцыі ў Менску першы віцэ-прэм'ер ураду Уладзімер Сямашка заявіў, што для нармальнага функцыянаваньня эканомікі, цэны на газ мусяць заховавацца на тым-жа самым узроўні, што і для самой Расеі, і павышэньне цаны не павінна перавышаць 11-15 адсоткаў.

Як памятаем, у траўні "Газпром" выставіў рахунак Беларусі — $200 за 1 тысячу кубамэтраў (сёлета цэны на газ для Беларусі складалі — $48,68). Паводле Сямашкі, рост цаны на газ пацягне за сабою павышэньне платы за камунальныя паслугі. Так, пры павышэньні цаны да $100 за 1 тыс. куб. м, рост камунальных плацяжоў за двухпакаёвую кватэру, дзе пражывае чатыры чалавекі, складзе $32-35 і будзе раўняцца $90-100. І гэта без уліку электраэнэргіі і вады.

На наступны дзень, 18 жніўня, "Газпром" распаўсюдзіў заяву, у якой сьцьвярджаецца, што кошты на газ для Беларусі ўзрастуць як мінімум у тры разы.

## Беларускі Samand

Прэзэнтаваны іранскі аўтамабіль Samand LX. Зьбіраць яго будуць у Абчаку пад Менскам, дзе некалькі гадоў таму зьбіралі машыны "Форд"— пакуль амэрыканцаў ня выгналі зь Беларусі.

"Саманд" досыць прэстыжны ў Іране аўтамабіль, які комплектуецца на аснове французкага Пэжо-405. Аднак у гэтым аўтамабілі ёсьць адно сур'ёзнае "але" — гэта цана каля 12,5 тыс. даляраў, якая ставіць яго ў адну цэнавую катэгорыю з аўтамабілямі "Форд Фокус", "Кіа Спэктра" і "Рэно Лаган". Ня выключана, што патэнцыйны пакупнік аддасьць перавагу ўжо праверанным брэндам. Да таго-ж абсалютовая большасьць аўтамабіляў, якія прадаюцца ў Беларусі, патрыманыя. І "Саманду" павядзецца пачакаць, каб уціснуцца ў гэтую нішу.

Тым ня менш у год у Беларусі плянуюць зьбіраць ад 4 да 6 тыс. аўтамабіляў, прадаваць у Беларусі ад 3 тыс. да 5 тыс.

## Птушыны памарак

"Цікавы" выпадак здарыўся на птушкафабрыцы "Асобіна" ў Буда-Кашалеўскім раёне Гомельскай вобласьці. Паморак тут выкасіў па розных ацэнках ад 75 да 100 тысячаў курэй. Сыпісаць усё на птушыны грып ці інфэкцыю не ўдалося. Сьледзтва — пракуратура Гомельскай вобласьці па факту паморку завяла крымінальную справу — паказала, што прычынаю масавай гібелі птушак быў няякасны атручаны камбікорм.

Выжыўшых птушак вырашылі пусьціць пад нож і аддаць у гандлёвую сетку.

## Навіны футболу

На менскім стадыёне "Дынама" нацыянальная футбольная зборная правяла свой 100-ы афіцыйны матч. Першы матч быў згуляны 28 кастрычніка 1992 году з камандай Украіны. Тады таварыская гульня скончылася мірам — 1:1.

Цяпер была таксама таварыская гульня. Толькі абралі чамусьці ў супернікі адну з самых слабых зборных Эўропы — каманду Андоры. Праўда, шэсьць гадоў таму беларусы ўмудрыліся пірэнэйскай дружыне прайграць — 0:2.

Гэтым разам, у прысутнасьці сямі з паловаю тысяч гледачоў, перамаглі — 3:0. Толькі вось карысьці ад такога футболу ніякай. Усе спэцыялісты і экспэрты сыходзяцца на тым, што ў таварыскім матчы трэба абіраць сабе моцнага суперніка — каб было чаму павучыцца.

Беларуская зборная цяпер мае на рахунку 27 перамог, 26 нічыіх, 47 паразаў. Баланс мячоў 114—153.

Наступны матч беларускай зборнай — 2 верасьня. У гэты дзень у падгрупе (Беларусь, Альбанія, Баўгарыя, Галяндыя, Люксэмбург, Румынія, Славенія) стартуюць адборачныя матчы чэмпіянату Эўропы—2008.

2 верасьня ў Менску гульня з Альбаніяй (пачатак а 20-й). 6 верасьня — у Эйндховэне з зборнай Галяндыі. Пачатак а 20.30. Беларусы Нідэрландаў і ваколіцаў, падтрымайце сваіх!

*Уласны карэспандэнт*

# С. Сокалаў-Воюш у Менску:

## добры канцэрт і новы альбом

Прайшло два гады з таго моманту, калі ў беларускай сталіцы адбылася прэзэнтацыя архіўнага дыску "Нефармальны Беларус ды іншыя песні" вядомага барда-эмігранта Сяржука Сокалава-Воюша. Тая падзея, канцэрты барда ў рамках прэзэнтацыі сталіся сапраўдным сьвятам для тых Беларусаў, якія спрычыніліся да нацыянальнага Адраджэньня 80-90-х гадаў, а таксама пазнаёміла прадстаўнікоў маладзейшай генэрацыі з творчасьцю нашага барда-трыбуна. Тады Сяржук паабяцаў сваім старым прыхільнікам і маладым слухачам новыя канцэрты...



І вось час сустрэчы зноў надышоў: Сяржук Сокалаў-Воюш з сям'ёю завітаў у Беларусь. І адразу, пасьля вяртаньня са сваёй малой радзімы – Полаччыны, дзе ён наведаў родных, адбыўся даўгачаканы канцэрт барда ў Менску. Гэтая падзея адбылася ў канфэрэнц-залі ў сядзібе БНФ, якая апошнім часам становіцца ня толькі месцам палітычных канфэрэнцый і сустрэч, але і вядомым ў сталіцы культурным цэнтрам.

Канцэрт сабраў некалькі соцень найбольш адданых прыхільнікаў творчасьці барда, сярод якіх можна было ўбачыць вядомых дзеячоў нацыянальнага Адраджэньня канца ХХ ст. – С. Вітушку, які нягледзячы на цяжкую хваробу здолеў прыехаць зь Вільні на канцэрт сябра і ўлюбёнага барда, землякоў – пісьменьніка У. Арлова, музыку С. Анішчанку, які ў гэты час вырашаў пытаньні з тутэйшым Мінкультам адносна правядзеньня ў Наваполацку фэста "Рок-кола", прадстаўнікоў беларускай творчай інтэлігенцыі, актывістаў БНФ і моладзевёга руху Супраціву...

Перад канцэртам з уступным словам да прысутных зьвярнуўся лідэр партыі БНФ Вінцук Вячорка, які вітаў Сяржука Сокалава-Воюша на Беларускай зямлі, адзначыў яго вялікі ўклад ў станаўленьне БНФ, у тым ліку, і як аўтара гімну руху "Фронт, Фронт, Фронт..."

Канцэртавая праграма Сяржука Сокалава-Воюша, што была агучаная ў штабкватэры БНФ, была складзеная адвольна: найперш гучалі даўно знаёмыя слухачам песьні. Бард таксама вёў найпрасьцейшы дыялёг з слухачамі, дзяліўся ўражаньнямі ад наведваньня родных мясьцінаў, распавядаў пра жыцьцёвыя акалічнасьці на эміграцыі, дзяліўся творчымі плянамі. Ну а скончыўся канцэрт выкананьнем гімну БНФ "Фронт, Фронт, Фронт...", які слухачы горача засьпявалі разам...

Адзначу, што на гэтым канцэрце слухачы з захапленьнем пазнаёміліся з новымі песьнямі Сокалава-Воюша, якія ён вырашыў аб'яднаць ў альбом "Песьні Лісоўчыкаў". Бард адзначыў, што дзякуючы гістарычным зьвесткам, вядома, што "Лісоўчыкамі" называлі беларускую лёгкую коньніцу, якой камандаваў палкоўнік войскаў ВКЛ Аляксандар Лісоўскі. Атрады "Лісоўчыкаў" зьдзяйсьнялі дзёрзкія рэйды па тэрыторыі Расеі, наводзілі жах на расейскія войскі і мясцовае насельніцтва. "Мне хацелася ў песеннай форме распавесьці пра баявыя паходы і дух нашых продкаў. Думаю, што гэты цыкль яшчэ будзе папаўняцца новымі песьнямі, бо пакуль для поўнага адлюстраваньня тэмы не стае гістарычнага матар'ялу. Але тое, што ўжо ёсьць, думаю, можна паказаць слухачам" – адзначыў на сваёй прэс-канфэрэнцыі ў Менску Сяржук Сокалаў-Воюш.

Дарэчы, адна з мэтаў прыезду С. Сокалава-Воюша ў Беларусь – запіс новага альбому "Песьні Лісоўчыкаў" у якаснай студыі і выданьне дыску менавіта ў Беларусі. Стала вядома, што гэты новы альбом быў запісаны на прыватнай студыі знанага менскага музыкі, мастака і калекцыянэра Андрэя Плясанава (гурт "P.L.A.N."). Гэтая праца запатрабавала ад гукарэжысэра запісу фантазіі ды іншых падыходаў да працы ў студыі, бо "Песьні Лісоўчыкаў" выконваюцца Сяржуком без гітарнага акампанэменту. Каб ўпэўніцца, ці дасягнулі пастаўленых мэтаў выканаўца і гукарэжысэр, чакаць засталося нядоўга – рэліз новага альбому прызначаны на восень.

Тады-ж Сяржук прадставіць прыхільнікам у Беларусі і працяг свайго раманатрылера "Крывавы памол-2", у якім, між іншым, будзе адлюстраваны станоўчы вобраз прататыпа графа Дракулы – графа Ўлада Цэпеша, паводле румынскага фальклёру.

22 жніўня адбыўся і надзвычай пасьпяховы выступ С. Сокалава-Воюша і ў канцэртнай зале сталічнага Дому літаратара.

***Анатоль МЯЛЬГУЙ***
***Фота аўтара***

# Таемнае становіцца яўным

На старонцы расейскага парталу "prognosis.ru" 14-га ліпеня быў зьмешчаны артыкул І. Расолава "Россия – Беларусь: "дружественное поглощение". Яго шмат дзе перадрукавалі ў сеціве, дадаўшы наступнае рэзюмэ: "Артыкул І. Расолава выяўляе адзін з плянаў Масквы на падрыхтоўцы аншлюсе Беларусі. Фактычна беларускім нацыянальна-дэмакратычным сілам прапануецца спіхнуць ляяльць за што папала Маскву, і лепш хутчэй брацца за "кансалідацыю". Кансалідавацца прапануюць "на аснове адзіных каштоўнасьцяў – барацьбы за свабоду палітзьняволеных," натуральна забыўшыся пра рэальныя адзіныя каштоўнасьці – незалежнасьць нашай краіны. Пасьля прачытаньня артыкула становіцца зразумелымі і лягічнымі апошнія дзеяньні некаторых палітычных сілаў у Беларусі ды іхняя сапраўдная мэта.

І сапраўды, мяне заўсёды насьцярожвала нейкая ненатуральнасьць рэакцыі і шуму падстаўной апазыцыі вакол палітычна асуджаных. Замест рэальных падыходаў ідзе паказная адпрацоўка нейкага навязьліваго сцэнару пра свабоду палітасуджаным як самай галоўнай справы грамадзтва. "Свабоду таму і гэтаму!" – пастаялі ў пікеце (ланцугу) і разышліся. І так увесь час. Прафанацыя нейкая. Аказваецца, і гэта Масква прадумала для іх. Лукашэнка садзіць, а ягоныя былыя хаўрусьнікі патрабуюць свабоды пасаджаным, "кансалідуюць грамадзтва". Усе пры справе. Усё апаганілі, нават на чалавечай бядзе вырабляюць паліттэхналёгіі.

*(Лябедзька:) "Трэба выходзіць за межы Менскага гарадзкога кальца і ісьці ў рэгіёны. Ставім задачу на бягучы каляндарны год, пачынаючы ад гэтай да наступнай восені, правесьці такія акцыі і ланцугі неабыякавых людзей у кожным раённым цэнтры."* ***(Радыё "Свабода", 16 08.06.).*** Вось гэта імпэт! Толькі адкуль ногі растуць.

Артыкул І. Расолава, як і бальшыня агентурных тэкстаў такога роду, напісаны даволі цынічнай мовай, з прыхаванай грэблівасьцю да ўсяго беларускага. "На зьдзіўленьне назіральнікаў апазыцыя гатовыя цярпець "бацьку" (ці ягонага стаўленьніка), толькі-б ня стаць да канца губерняй Масквы", — удавана зьдзіўляецца масковец і прапануе хутчэй правесьці ў Менску новы "кангрэс дэмакратычных сілаў" (падстаўной апазыцыі). Для Масквы патрэбны новыя, сьвежыя, яшчэ больш прамаскоўскія стаўленьнікі.

Усё гэта зразумела і вядома. Невядома было толькі тое, што Ільля Расолаў быў даверанай асобай А. Казуліна на "выбарах" прэзыдэнта, і адначасна зьяўляецца каардынатарам беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі «Грамада». Ён расеец, жыве ў Маскве, супрацоўнічае з праваахоўнымі арганізацыямі, юрыст па адукацыі. Генэрал Алексій ІІ узнагародзіў яго залатым мэдалём "Преподобного Сергия Радонежского І степени".

Як "стварылі" партыю Казуліну, і хто такі Казулін (якога Масква "кінула") – усе ўжо ведаюць. Цікава аднак тое, як у апошні час пачала сыпацца маскоўская агентура ў Беларусі. Яшчэ не пасьпелі забыцца пра шпіёна Суздальцава, які прызнаўся, што дванаццаць гадоў працаваў над стварэньнем прамаскоўскай апазыцыі ў Беларусі (у хаўрусе зь Вікам), аж тут, на табе, Расолаў вылазіць. Прыйдзе час, ці тое яшчэ даведаемся.

***Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ***

# ЭЎРОПА: праблема цывілізацыі

Француская газэта "Le Monde" 16 жніўня 2006 году паведаміла пра сустрэчу Папы Рымскага Бэнэдыкта XVI з кіраўнікамі эўрапейскіх тэлеканалаў і інфармацыйных агенцыяў. Папа гаварыў пра крызісные працэсы на Захадзе ў сувязі з наступам бездухоўнасьці і апанаваньнем традыцыйна хрысьціянскіх культурных арэалаў (а гэта – цэлыя кантынэнты!) чужымі сыстэмамі каштоўнасьцяў. Панціфік канстатаваў: "Цяжка верыць у Бога, бо ўзмацняецца сэкулярызм і сьвецкасьць". Паводле ягонай думкі, гэта найбольш відавочна на Захадзе, дзе ёсьць пагроза тоеснасьці: "Захад моцна закрануты іншымі культурамі, у якіх рэлігійны элемэнт вельмі выразны. Носьбіты гэтых культураў зьбянтэжаны халоднасьцю, якую яны бачаць на Захадзе ў адносінах да Бога". Аднак, Папа згадаў як пра станоўчую зьяву сучасны зварот каталіцкіх сьвятароў да моладзі, якая "патрабуе нечага большага, чым матар'яльнае грамадзтва". "Мы не павінны капітуляваць, не павінны скардзіцца, што мы меншасьць..." – заклікаў Рымскі бікуп.

**Камэнтар:** Справядлівыя ацэнкі! На працягу дзесяцігодзьдзяў палітыка бязбожнікаў лібэралаў і сацыялістаў адкрыла заходнія краіны для мільёнаў прадстаўнікоў чужых культурных і рэлігійных традыцыяў, а таксама для легальнай дзейнасьці мясцовых збачэнцаў і сатаністаў рознага калібру. У выніку атрымалася ня "дружба народаў" ("шматрасавае і шматкультурнае грамадзтва") у Нямеччыне і Англіі і не лібэральны "рай на зямлі бяз Бога". Атрымаўся глыбокі крызіс самасьвядомасьці эўрапейцаў, атрымаўся вакуум бездухоўнасьці, які запаўняюць мільёны чужынцаў з эўрапейскімі пашпартамі, якія верань у сваё і ненавідзяць чужое для іх – заходняе, амэрыканскае і эўрапейскае. Вяртаньне да Хрысьціянства, да нацыянальных духоўных і культурных традыцыяў, вяртаньне эўрапейскіх народаў да адэкватнай ролі гаспадароў на сваёй дзяржаўнай і этнічнай тэрыторыі – вось асноўныя шляхі выратаваньня эўрапейскай цывілізацыі.

Невыпадкова брусэльскія лібэрал-сацыялісты так лёгка знаходзяць агульную мову з крамлёўскімі імпэрыялістамі, так лёгка прадаюць Украіну і Беларусь у маскоўскі палон. Яны даўно ўжо прадалі-здалі свае ўласныя айчыны ў палон чужынцаў і мясцовых вычварэнцаў. Ім не шкада свайго, дзе-ж яны будуць спачываць нам? Здаровыя сілы эўрапейскіх грамадзтваў ужо вядуць змаганьне за сваю будучыню супраць богапраціўнай "матар'ялістычнай" публікі. Важная роля ў гэтым змаганьні належыць беларускаму народу, які мусіць вярнуцца ў здаровую эўрапейскую цывілізацыю, абараніўшы сваё ад усходняй дэспатыі.

***Валеры БУЙВАЛ***

Сёньня наўрад ці каго можна зьдзівіць шматлікімі фактамі парушэньняў правоў чалавека беларускай дзяржавай. Паводле меркаваньняў шматлікіх праваабаронцаў, сёньня судзіцца з дзяржаўнымі службоўцамі ў беларускім судзе – усё роўна, што прывучваць воўка да вэгетарыянства. Больш за тое, беларусы практычна пазбаўленыя магчымасьці абараняць свае правы ў міжнародных судох, напрыклад, у Эўрапейскім судзе па правох чалавека. Беларуская апазыцыйныя палітыкі часьцяком гавораць пра нейкую кару, якая, нібыта, чакае ўсіх парушальнікаў правоў чалавека ў Беларусі. Цікава тое, што такія выказы не пазбаўленыя юрыдычнага сэнсу.

Сёньня існуе невялікая, але-ж надта пэўная магчымасьць, скарыстаўшыся якою, грамадзяне Беларусі могуць прыцягваць да грамадзянскай адказнасьці беларускіх службоўцаў – парушальнікаў асноўных правоў і свабодаў чалавека, а таксама, - буйныя расейскія кампаніі, якія адкрыта падтрымоўваюць сучасны беларускі рэжым. Здаецца, што гэта неверагодна, але-ж факт: у некаторых выпадках грамадзяне Беларусі могуць падаваць грамадзянскія пазовы да Лукашэнкі і «Газпрому» .... у амэрыканскі суд!

нага сьпісу міжнародна-прававых нормаў у галіне правоў чалавека, парушэньне якіх можа прывесьці да пасьпяховага пазову замежнага грамадзяніна ў судовую ўстанову ЗША. У той-жа час, судовая практыка апошніх дзесяцігодзьдзяў вызначыла наступныя міжнародна-прававыя парушэньні, якія могуць прывесьці да падобнага пазову: генацыд, зьнікненьні людзей, катаваньні, працягла па-за судовае затрыманьне, па-за судовае забойства і шэраг іншых. Сярод найбольш вядомых грамадзянскіх адказчыкаў, якія прайгралі ў судох ЗША грамадзянам сваіх дзяржаваў, - былы крывавы лідэр басьнійскіх сэрбаў Радаван Караджыч і былы дыктатар Філіпіны Фердынанд Маркес.

Цікава, што пазовы ў амэрыканскім судзе – справа дасягальная для звычайнага беларуса, таму што ў ЗША існуе шэраг некамэрцыйных юрыдычных установаў, якія гатовыя дапамагчы ў пэрспэктыўнай справе, а ў выніку перамогі ў судзе – падзяліць грашовую кампэнсацыю. Па гэтай спасылцы можна знайсьці сьпіс амэрыканскіх і міжнародных установаў, якія здольныя аказаць інфармацыйную дапамогу па гэтаму пытаньню: http://www.nosafehaven.org/getInvolved.html

нівае яго ад судовых установаў шэрагу іншых дзяржаваў.

Яшчэ адною «праблемаю» можа стаць міжнародна-прававы прынцып няўмяшаньня ва ўнутраныя справы, паводле якога дзяржаўныя службоўцы адной краіны ў пэўных выпадках маюць імунітэт ад пазоваў ў судох другой краіны. І калі на былых службоўцаў гэты імунітэт у абмяркоўваемым катэксьце не распаўсюджваецца, то зь дзеючымі службоўцамі могуць узьнікнуць праблемы. У ЗША гэты прынцып уведзены ў нацыянальнае заканадаўства законам Foreign Sovereign Immunity Act. Аднак, у некаторых выпадках дзеючы іншаземны службоўца можа быць пазбаўлены імунітэту ад пазоваў у амэрыканскім судзе, напрыклад, калі ён дзейнічае па-за паўнамоцтвамі, дадзенымі яму нацыянальнай канстытуцыяй і законамі (гл. справу 2004 г. Jane Doe v. Lui Qi, афіц № - 349 F. Supp. 2d 1258).

У якасьці магчымага прыкладу давайце паспрабуем гіпатэтычны прымяніць дадзеную норму да адной сытуацыі зь беларускай сучаснасьці. Вядомы беларускі праваабаронца Г. Паганяйла выказаў меркаванне, што калі А. Лукашэнка балятаваўся на трэці прэзыдэнцкі тэрмін, ён парушыў закон «Аб прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь», які адпавядаў (нават) новай рэдакцыі Канстытуцыі, і паводле якога адна асоба не магла быць прэзыдэнтам Беларусі больш за два тэрміны запар (гл. тэкст інтэрвію на http://www.charter97.org/rus/news/2006/03/09/vlast)

канскімі кампаніямі, яна робіцца дасягальнай для пазоваў, заснаваных на парушэньнях амэрыканскіх законаў, у дадзеным выпадку – закону ATS. У гэтай сувязі дарэчы згадаць моцную зацікаўленасьць «Газпрому» амэрыканскім рынкам.

З аднаго боку, частка амэрыканскіх праўнікаў абгрунтавана заклапочаная тым, што заканадаўства, накшталт закону ATS, можа стаць сур'ёзным ударам па разьвіцьцю амэрыканскай эканомікі (гл. артыкул Gary Hufbauer, International Implications of the Alien Tort Statute, 16 St. Thomas L. Rev. 607). Але-ж, у той-жа час у Кангрэсе і ў Вярхоўным Судзе ЗША ёсьць разуменьне падмацаванне цяскам некамэрцыйных праваабарончых арганізацыяў, што павінны існаваць пэўныя стрымліваючыя юрыдычныя мэханізмы, якія не дазваляюць ТНК рабіць грошы «на людзкіх касьцях» пры дапамозе супрацоўніцтва з дыктатарскімі рэжымамі.

Менавіта з гэтай прычыны амэрыканскія судзьдзі й заканадаўцы намагаюцца знайсьці «саламонава рашэньне» ў пытаньні грамадзянскай адказнасьці карпарацыяў за саўдзельніцтва ў парушэньнях правоў чалавека. Паводле дасьледаваньня прафэсара юрыдычнай школы ўнівэрсытэту Rutgers Camden зь Нью-Джэрзі Beth Stephens, амэрыканскія суды адмаўляюцца прыцягваць кампаніі да адказнасьці толькі на падставе факту іх бізнэс-супрацоўніцтва з «падазорнымі» ўрадамі. Аднак, калі існуе больш пэўная сувязь паміж дзеяньнямі кампаніі й парушэньнямі правоў чалавека ў замежнай дзяржаве, дык карпарацыя можа быць прыцягнутая да грамадзянскай адказнасьці. У гэтай сувязі ўзгадаем шэраг пагадненьняў з удзе-

# Ці падарвуцца "Газпром" з "Лукойлам" на амэрыканскай бомбе зь беларускім запалам?

## Амэрыканскі суд – навала для дзяржаўных катаў

Юрыдычны мэханізм, які дае права беларусам, як і грамадзянам іншых краінаў, зьвяртацца ў фэдэральныя суды ЗША, быў створаны ў далёкім 1789 годзе. Менавіта тады амэрыканскі Кангрэс прыняў закон «Аб грамадзянскай адказнасьці за шкоду іншаземцам», Alien Tort Statute, які потым атрымаў шэраг іншых назваў (афіц. № 28 U.S.C. 1350; далей тут – «закон ATS»). Сутнасьць закону ў тым, што ён надае фэдэральным судам ЗША паўнамоцтвы ў грамадзянскіх справах па пазовах іншаземцаў аб прычыненьні шкоды ў іх дзяржавах з прычыны грубых парушэньняў некаторых нормаў міжнароднага права, у прыватнасьці – асноўных правоў чалавека.

Закон практычна не працаваў да 1980 году, калі Вярхоўны Суд ЗША даў яму другое нараджэньне і распачаў эпоху жорсткай барацьбы паміж праціўнікамі закону (у асноўным, прадстаўнікамі міжнароднага бізнэсу) і прыхільнікамі (праваабарончымі арганізацыямі ўсяго сьвету). Цікава, што заўзятым праціўнікам падобных пазоваў зьяўляецца адміністрацыя прэзыдэнта Буша, якая слушна адзначае, што судовая ўлада ЗША такім чынам пагражае зьнешнепалітычным стасункам краіны.

Аднак, у 2004 годзе Вярхоўны Суд ЗША зноў пацьвердзіў канстытуцыйнасьць закону ATS і тое, што суды ЗША могуць у некаторых выпадках разглядаць справы аб грубых парушэньнях правоў чалавека во ўсім сьвеце (гл. справу 2004 г. Sosa v. Alvarez-Machain, афіц. № 542 U.S. 692). Разам з тым, судовая ўлада добра ўсьведамляе ўсю тонкасьць дадзенай міжнародна-прававой праблемы і з гэтай прычыны строга абмяжоўвае тыя выпадкі, калі пазовы аб парушэньнях правоў чалавека замежнымі дзяржавамі могуць разглядацца ў судох ЗША.

На дадзены момант не існуе вычарпальДарэчы, хто і калі можа быць адказчыкам у судох ЗША па справах аб парушэньнях правоў чалавека?

## Не хадзіце ў ЗША гуляць

Першая група асобаў, якія могуць стаць адказчыкамі ў судох ЗША – гэта працаўнікі беларускіх уладавых структураў усіх узроўняў, якія патэнцыйна датычныя да грубых парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі, а таксама непасрэдныя выканаўцы гэтых парушэньняў.

Бадай, самай сур'ёзнай патэнцыйнай праблемай па справах супраць беларускіх службоўцаў-парушальнікаў міжнароднага права зьяўляецца пытаньне тэрытарыяльнай падсуднасьці пазову амэрыканскаму суду. Паводле амэрыканскіх законаў, мясцовы суд прыме справу да разгляду, калі фізычная асоба атрымае копію пазову непасрэдна на тэрыторыі ЗША. Добра тое, што адказчыку дастаткова фізычна зьявіцца ў ЗША нават на хвіліну альбо нават.... пралятаць у самалёце над тэрыторыяй ЗША (гл. справу 1959 г. Grace v. MacArthur, афіц. № - 170 F. Supp. 442). Галоўнае, каб прадстаўнік пазоўніка пасьпеў асабіста падаць адказчыку копію пазову, а ў выпадку, калі апошні адмаўляецца яе прыняць – вусна перадаць інфармацыю аб надыходзячым судовым працэсе. Такім чынам, напрыклад, былы лідэр басьнійскіх сэрбаў Караджыч, якога абвінавачвалі ў этнічных чыстках, атрымаў копію пазову, калі ён часова спыніўся ў нью-ёркскім гатэлі. Зрэшты, існуюць дадатковыя правілы тэрытарыяльнай падсуднасьці, у адпаведнасьці зь якімі суд ЗША можа браць да разгляду пазовы дадзенай катэгорыі.

Такім чынам, некаторым беларускім дзяржаўным службоўцам трэба добра падумаць, ці варта ім наогул калі-небудзь ехаць ў ЗША. Натуральна, тым, чыё сумленьне чыстае, палохацца няма чаго: амэрыканскі суд вядомы сваёй прынцыповасьцю і непрадузятасьцю, што адрозь-

. Паводле меркаваньня праваабаронцы, А. Лукашэнка ўзяў на сябе паўнамоцтвы, якія не былі дадзеныя яму беларускай дзяржавай. Здаецца, што амэрыканскі суд, па меншай меры, прыслухаўся-б да такога аргумэнту, пры разгляданьні пытаньня аб судовым імунітэце А. Лукашэнкі. Натуральна, дадаткова трэба будзе даказаць, што Лукашэнка груба парушыў нормы міжнароднага права ў галіне правоў чалавека.

## Беларусы могуць судзіць «Газпром» і «Лукойл» у Амэрыцы

Другая, больш прывабная група патэнцыйных адказчыкаў, якіх могуць судзіць у амэрыканскіх судох іншаземцы, - транснацыянальныя карпарацыі (ТНК), якія садзейнічаюць рэжымам, абвінавачаным у грубых парушэньнях правоў чалавека. Найбольш вядомы гістарычны прыклад – справа нафтавай кампаніі «Unocal», абвінавачанай у шчыльных сувязях з урадам дзяржавы Бірама, які груба парушаў нормы міжнароднага права (ужываньне нявольніцтва). Дзякуючы намаганьням праўнікаў, «Unocal» дасягнула шматмільённага па-за-судовага пагадненьня і пазьбегла судовага прэцэдэнту, небясьпечнага для іншых ТНК.

Аналіз прэцэдэнтнага права ЗША сьведчыць аб тым, што да адказнасьці ў амэрыканскім судзе можна таксама прыцягнуць і расейскія ТНК, напрыклад «Газпром». Пытаньне тэрытарыяльнай падсуднасьці справы амэрыканскаму суду ў выпадку з ТНК можа вырашацца пазытыўна на падставе так званай тэорыі «мінімальных бізнэс кантактаў» з ЗША (гл., напрыклад, справу 1945 г. Int'l Shoe Co. v. Washington, афіц. № - 326 U.S. 310). Сутнасьць дадзенай тэорыі ў тым, што як толькі замежная кампанія пачынае займацца бізнэсам на амэрыканскай зямлі, ці нават гандляваць з амэрылам «Газпрому» і ўраду Лукашэнкі, якія адсутнасьцю эканамічнай лёгікі выклікалі шок у многіх расейскіх экспэртаў (гл., напрыклад, http://www.opec.ru/news_doc.asp?d_no=50017 ). На хвіліну ўяўляючы сябе амэрыканскім судзьдзём, давайце задамо сабе рыторычнае пытаньне: што гэта было – «толькі бізнэс» ці сьвядомыя дзеяньні, скіраваныя на падтрымку рэжыму, мэтаю якога зьяўляецца поўнае зьнішчэнне палітычнай апазыцыі ў Беларусі?

Яшчэ адзін цікавы прыклад – нафтавая кампанія «Лукойл», кіраўніцтва якой, як вядома, мае шчыльныя зносіны з Лукашэнкам. На адной з апошніх сустрэчаў прадстаўнікоў гэтай кампаніі з Лукашэнкам, якая адбылася ў студзені 2006 году, непасрэдна перад прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі, «Лукойл» атрымаў візізарную падтрымку з боку беларускага кіраўніка (гл. артыкул на http://www.bankir.by/modules.php?name=News&file=article&sid=27). Малаверагодная бачыцца магчымасьць доказу таго, што «Лукойл» непасрэдна прымаў ўдзел у парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі. Але-ж, даволі рэалістычнай бачыцца спроба перакаць амэрыканскі суд у тым, што «Лукойл» усьведамляў верагоднасьць грубых парушэньняў правоў чалавека пад час выбараў прэзыдэнта ў сакавіку 2006 году, і, больш за тое, магчыма жадаў такіх наступстваў. Верагодная мэта «Лукойлу» - усімі сродкамі захаваць у Беларусі ўладу, якая гарантуе кампаніі рахманае жыцьцё і прыбыткі. Магчымая карысьць для Лукашэнкі – эканамічная выгада і ўзмацненьне аўтарытэту рэжыму. А вось, магчыма, і першы ўскосны доказ таго, што кіраўніцтва «Лукойлу» магло ўсьведамляць верагоднасьць (і жадаць) перамогі Лукашэнкі любым, нават крывавым, спосабам: пасаду старшыні кансультатыўнага савету «Лукойл-Белоруссии», дачэшная

Заканчэньне на бачыне 7

# Пра беларускую мясьціну ў Парыжы

Нядаўна паўстала думка ў Беларусі выдаць каляндар зь ілюстрацыямі беларускіх мясьцінаў у сьвеце. Цудоўная ідэя. Спадзяюся, што Алег і Натальля Гардзіенкі дазволяць мне яе выкарыстаць, каб расказаць пра адну з такіх мясьцінаў у самым цэнтры Парыжа.

Кватэра ў будынку 17-га стагодзьдзя на вуліцы дэ Гравіе (65, rue des Gravilliers, Paris 3) ёсьць зьвязаная зь беларускім жыцьцём з 30-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Калі нашая сям'я прыехала ў Парыж у 1948-м годзе, там жылі Старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык з жонкаю Нінай. Гэта была першая "беларуская мясьціна", куды нас прывёз з станцыі тагачасны старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Францыі Лявон Рыдлеўскі. Тады там было два пакоі і маленькая куханька. На пачэсным месцы, між двума вялікімі вокнамі, висела цудоўная Пагоня, выробленая з мэталю мастаком Віктарам Жаўняровічам. Вісіць яна там дасюль.

Памятаю, у гэтым памешканьні сп-ва Абрамчыкаў рабілі прыняцьце дэлегатам канфэрэнцыі Сусьветнага Аб'яднаньня Беларускай Эміграцыі ў кастрычніку-лістападзе 1948-га году. Туды мы езьдзілі зь сястрой на лекцыі беларускай мовы, якія нам давала спн. Абрамчык.

Пасьля таго як сп-ва Абрамчыкаў пераехала жыць у Вільпэнт, памешканьне засталося галоўнай кватэрай Аб'яднаньня Беларусаў Францыі, Хаўрусу. Там праходзілі паседжаньні ўправаў і іншых беларускіх арганізацыяў. Там пісаліся, набіраліся і друкаваліся газэта "За Волю", якая выходзіла ў пачатку 1950-х гадоў, і часапісы "Моладзь" і "Божым Шляхам". Там была прыгатаваная да друку франкамоўная брашура "Bielorussie".



*Выспа Сімэ, на якой стаіць Нотр-Дам.*

Наступным лякатарам памешканьня быў легендарны ўжо ў беларускім жыцьці айцец Леў Гарошка, які памясьціў там сваю багатую бібліятэку. Пасьля сьмерці а. Льва а. Аляксандар Надсон аднавіў кватэру і зрабіў зь яе беларускую капліцу, дзе нашая маленькая грамада – бальшыня беларусаў тады ўжо пераехала ў Канаду ды Злучаныя Штаты – мела прыемнасьць прысутнічаць на штомесячных беларускіх Багаслужбах, якія адпраўляў а. Аляксандар. На беларускія Багаслужбы зьбіраліся беларусы ўсіх веравызнаньняў. У Парыжы заўсёды панаваў цудоўны хрысьціянскі экумэнізм, які сьведчыў пра трыдцыцю талерантнасьці нашага народу.

Пасьля "перастройкі" ў памешканьні на вуліцы Гравіе таксама адбываліся ўсе спатканьні з нашымі суродзічамі з Бацькаўшчыны. Ад 1990-х гадоў аж да ліпеня сёлета ў памешканьні жыло шмат нашых маладых студэнтаў зь Беларусі, якія прыяжджалі вучыцца ў французкія ўнівэрсытэты.

Сапраўды, можна сказаць, што памешканьне на вуліцы Гравіе было на працягу амаль васьмідзесяці гадоў нашай беларускай хаткай у цэнтры Парыжу. У вялікай меры да гэтага спрычынілася адміністрацыя маёмасьці Францускага каталіцкага касьцёлу, якая яго купіла для айца Льва і на працягу апошняга паўстагодзьдзя ўтрымоўвала для беларускіх патрэбаў. Аднак таму, што беларуская грамада ў Парыжы вельмі маленькая і беларускія Багаслужбы там больш не адпраўляюцца, адміністратары прынялі рашэньне памешканьне прадаць.

Для Беларусаў Францыі, якія дасюль гуртаваліся вакол гэтай мясьціны і ўважалі яе сваёй, рашэньне гэтае ёсьць вельмі вялікім ударам. Для ўсіх іх мясьціна гэтая ёсьць частачкай іхняй гісторыі – часткай гісторыі нашага народу. Безь яе цяжка сабе ўявіць беларускае жыцьцё ў Францыі.

Свае мясьціны ў Парыжы маюць усе нашыя суседзі. Да таго, вуліца Гравіе знаходзіцца ў самым цэнтры Парыжа. Адсюль да Нотр-Даму, Сарбоны, да музэяў і бібліятэкаў можна зайсьці пехатою. Памешканьне мае 34 кв. мэтры, знаходзіцца ў добрым стане. Цяпер будынак ёсьць кааператывам (кондо). Выдаткі, зьвязаныя з утрыманьнем, зусім невялікія. Паўстала ідэя гэтае памешканьне купіць. Можна было гэта зрабіць у межах будучай адмысловай фундацыі, якая прадаўжала-б беларускую культурна-асьветніцкую дзейнасьць у Парыжы.

Зьвяртаюся сёньня да суродзічаў з просьбаю дапамагчы нам сабраць на гэта сродкі. Будзем прапаноўваць адміністратарам некалькі варыянтаў сплаты, але на які-б варыянт яны не згадзіліся, без падтрымкі суродзічаў ня справімся. Прашу адгукнуцца як найхучэй. Пышыце на адрас:

*L. Symaniec*
*49, boul. de Bezons*
*78500 Sartrouville*
*FRANCE*

Адрас электроннай пошты: *leonidsymaniec@compuserve.com*

**Лявон ШЫМАНЕЦ**

## "Газпром" і "Лукойл"

***Заканчэньне з бачыны 6***

прадпрыемства «Лукойлу», займае былы кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі і экс-дзяржсакратар Савету Дзяржаўнай Бясьпекі Беларусі Ўрал Латыпаў. Нарэшце, бізнэс-сувязь «Лукойлу» з ЗША сёньня відавочная: амэрыканскія аўтамабілісты ўжо доўгі час карыстаюцца запраўкамі, якія маюць дзіўную расейскую назву «Lukoil».

### Ці ёсьць шанец?

На думку аўтара гэтага артыкулу, які прааналізаваў дзесяткі рашэньняў судоў ЗША па справах аб парушэньнях правоў чалавека, найбольш пэрспэктыўнымі могуць быць дзьве катэгорыі позваў да парушальнікаў правоў чалавека ў Беларусі. Першая – гэта справы аб найбольш абуральных парушэньнях правоў чалавека, напрыклад, па заявах сваякоў вядомых беларускіх дзеячоў, якія, магчыма, зьніклі ці былі забітыя па палітычных матывах. Другая –гэта супольныя пазовы (так зв. «class action») грамадзянаў Беларусі, якія-б аб'ядналі ў сабе менш абуральныя факты, але паказалі сур'ёзнасьць і сыстэматычнасьць праушэньняў правоў чалавека, напрыклад, магчымых дзеяньняў ўлады, накіраваных на сьвядомую дыскрымінацыю беларускамоўнага насельніцтва альбо зьнішчэньне палітычнай апазыцыі ў Беларусі

Безумоўна, у кожным асобным выпадку патрабуецца ацэнка фактаў парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі ды іх аналіз праз прызму існуючага прэцыдэнтнага права ЗША. Толькі такім чынам магчыма вызначыць патэнцыйную пасьпяховасьць канкрэтнага позыву. Зараз прыгадаем толькі некалькі апошніх рашэньняў судоў ЗША, якія, магчыма, зацікавяць беларускіх праваабаронцаў.

У 2002 годзе ў справе Tachinova v. Zimbabwe Patriotic Front (афіц. № - 234 F.Supp. 2d 401) амэрыканскі суд дасьледаваў факты шматлікіх парушэньняў палітычных правоў і свабодаў грамадзянаў кіруючай партыяй Зімбабвэ і знайшоў, што такія парушэньні мелі сыстэматычны і абуральны характар і зьяўляліся дастаткова грубым парушэньнем міжнароднага права. У выніку, суд прынял гэтую справу да разгляду.

У 2004 годзе амэрыканскі суд разглядаў справу па пазову сяброў забароненага ў Кітаі прадэмакратычнага духоўнага руху Falun Gong да афіцыйных асобаў Кітаю (афіц. № – 349 F. Supp. 2d 1258). Суд зрабіў выснову, што афіцыйныя асобы не абароненыя імунітэтам ад пазоваў у амэрыканскім судзе, таму што яны груба парушалі кітайскую канстытуцыю, дапусьціўшы катаваньні. Акрамя таго, паводле суду, катаваньні зьяўляліся цяжкім парушэньнем міжнароднага права, і суд прыняў гэтую справу да разгляду.

### Шанец – ёсьць!

Безумоўна, інцыятыву зусім ня проста выйграць у амэрыканскім судзе справу аб парушэньнях правоў чалавека, і толькі невялікі працэнт пададзеных пазоваў завяршаецца вырокам супраць адказчыкаў. У дадатак да цяжкасьцяў, аб якіх ішла гаворка вышэй, давядзецца сутыкнуцца з іншымі працэсуальнымі перашкодамі, напрыклад, **тэрмінам даўнасьці** (па агульнаму правілу – 10 год), дактрынаю **«палітычнага пытаньня»** (суд адмаўляе ў пазове з прычыны сур'ёзных зьнешнепалітычных наступстваў справы), а ў некаторых выпадках і з патрабаваньнем праходжаньня **ўнутрыдзяржаўных судовых установаў** ўсіх узроўняў у краіне, дзе былі парушаныя правы чалавека.

Нягледзячы на ўсе пералічаныя складанасьці, беларускім праваабарончым арганізацыям варта зьвярнуць пільную ўвагу на гэты сродак абароны правоў чалавека, які лічыцца адным з самых эфэктыўных прававых мэханізмаў абароны правоў чалавека ў сьвеце. Ва ўмовах пагрозы дзяржаўнаму сувэрэнітэту Беларусі, перамогай будзе хаця-б тое, што грамадзяне, чые элементарныя правы парушаныя, атрымаюць магчымасьць выказаца перад непрадузятым судом. Таксама было-б вельмі цікава паслухаць судовую ацэнку сьведчаньняў былых беларускіх службоўцаў, якія не адмаўляюцца ад такіх сьведчанняў (гл., напрыклад, кнігу былога начальніка менскага СІЗА А. Алкаева «Расстрельная команда»).

Акрамя таго, праўнікі кожнай паважаючай сябе буйной міжнароднай карпарацыі не абмінаюць гаворкі пра магчымыя наступствы закону ATS для гэтых карпарацыяў. Калі расейскія кампаніі, якія падтрымліваюць рэжым Лукашэнкі, плянуюць выходзіць на рынкі ЗША, яны мусяць ведаць, што праблема закону ATS іх закране.

Беларускія праваабарончыя арганізацыі здольныя ажыцьцявіць збор і ўпарадкаваньне фактаў парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі, і ў той-жа час іх амэрыканскія калегі здольныя зрабіць юрыдычную ацэнку гэтых фактаў і падрыхтаваць пэрспэктыўныя пазовы.

Разам з тым, неабходна зразумець даволі простую рэч: у сучасным сьвеце грошай і бізнэсу ані Ўладзімер Пуцін, ані Эўразьвяз, ані Джорж Буш, ані нават Вярхоўны Суд ЗША ня зробяць па ўласнай ініцыятыве беларусам падарунак пад назвай «дэмакратыя». Каб здабыць сёньня права сваёй нацыі на існаваньне, трэба самастойна шукаць і выкарыстоўваць любыя эфэктыўныя прававыя сродкі, адным з якіх, безумоўна, зьяўляецца мэханізм, апісаны ў гэтым артыкуле.

***Яўген ВАЙТКЕВІЧ,***

***выпускнік Беларускага Інстытуту Правазнаўства, студэнт 2 курсу юрыдычнай школы Seton Hall, Н. Дж.***

**P.S. Пытаньні да аўтара дасылайце, калі ласка, на адрас электроннай пошты: *BelarusATCA@yahoo.com***

# Выжыць - і перамагчы...

## *Памяці Мікалая Ўлашчыка (1906 - 1986)*

Увогуле ён пазьбягаў высокіх, квяцістых словаў. Мікалай Улашчык - хто яго ведаў бліжэй - само ўвасабленьне стрыманасьці, нутранае засяроджанасьці, стоенае іроніі да ўсяго хадульна-напышлівага. Носьбіт тых тыповых якасьцяў, што змалку перамаюцца ад бацькоў, сям'і, фармуюцца самастойным ладам жыцьця-быцьця. З гэтага гледзішча Ўлашчыкаў жыццёвы шлях уражальна прасочваецца на старонках ягонае аўтабіяграфічнае «Хронікі», краязнаўчых нататак з часоў студэнцкае маладосьці. Пазьней расейскі гісторык, акадэмік М. Ціхаміраў, дырэктар Інстытуту гісторыі колішняе Акадэміі Навук СССР, паблажліва прыкмеціць мабыць істотнейшую рысу ў характары свайго супрацоўніка: «тихое белорусское упрямство». Што, зрэшты, заўважалі й шанавалі ў ім многія калегі па Інстытуту, разумеючы й падтрымоўваючы тыя беларускія сэнсы ў Кнізе Гісторыі, якія ўпарта й паслядоўна адкрываў і адстойваў аўтар кніаўг па аграрнай гісторыі, крыніцазнаўству і археаграфіі Беларусі, беларускалітоўскаму летапісаньню - калі толькі з большага пазначаць яго дасьледніцкі, даволі разложысты набытак.

У многім дзякуючы працам Улашчыка Беларусь як самадастатковы факт, калі заўгодна, суб'ект сусьветнае гісторыі, айчынная гістарыяграфія набыла шырокае ўзнаньне міжнароднай навуковай грамадзкасьці. Прынамсі, добры тузін грунтоўных водгукаў на Ўлашчыкавы публікацыі ў расейскім, беларускім, а таксама ў ангельскім, амэрыканскім, летувіскім, латыскім, нямецкім, польскім, румынскім, украінскім, чэскім друку штосьці нам гаворыць. Хто другі вучоны-беларусіст зь ліку яго сучасьнікаў, а нават знакамітых папярэднікаў, раўня яму абсягам спомненага ўзнаньня? Гэта пры тым, што на Радзіме, у БССР, афіцыйныя ўнівэрсытэцкія, акадэмічныя структуры ў лепшым выпадку стрымана, а часцей непрыхільна ставіліся да былога «нацдэма»-выгнаньніка, усяляк блякуючы яму вяртаньне на Бацькаўшчыну. Не зважаючы на відавочны Ўлашчыкаў прарыў у гістарычнай навуцы. А йшлося-ж пра тую самую нацыянальную канцэпцыю гісторыі Беларусі, якую ў расейскім асяродзьдзі фармаваў іхні суродзіч, і якая толькі ў постперабудовачным часе пачне легітымавацца ў самой Беларусі — зноў-жа пры лютым супраціве ваяўнічых дабраахвотнікаў ад Міністэрстваў «Праўды» і «Братэрства» (шкада, не дачакаўся наш Гісторык беларускага выданья Оруэлаўскага памфлету-прагнозу).

Адвечную дылему прарока й айчыны ён гостра перажыў на самым пачатку свайго творчага шляху. Нядаўні выпускнік Беларускага ўнівэрсытэту падзяліў горкі выгнаньніцкі лёс з многімі славутымі дзеячамі нацыянальнае культуры - Ластоўскім, Лёсікам, Бабарэкам, Дубоўкам, братамі Гарэцкімі, Касьпяровічам, Смолічам, Азбукіным... (справа так званага Саюзу Вызваленьня Беларусі). З таго першага, як-жа трагічнага пасьледкамі, працярэбліваньня беларускае творчае нівы Улашчык - адзін зь нямногіх, ацалелых.

І бадай што адзіны, хто сваё ацаленьне напоўніцу падначаліў свайму першаснаму, асноўнаму пакліканьню Беларускага Гісторыка. Яно змоладу віравала ў ягонай рамантычна-мяцежнай істоце - пагартаўма трапяткія й каларытныя старонкі Ўлашчыкавага «Краязнаўства». Пазьней - бараніла ад роспачы й фізычнага вычарпаньня на «гулагаўскіх» тупіках. А ўрэшце дапамагло выжыць, каб зьдзейсьніць задуманае, - зноў-жа варта вярнуцца да ягонай «Хронікі».

Неадольную ў ім прагу да выжываньня, спомненую беларускую ўпартасьць сучасны наступнік Улашчыка назваў талентам «перайграньня гісторыі» (Алег Гардзіенка. Гісторык, які перайграў гісторыю / / Arche. 2000, N 4). Зыркая, прываблівая мэтафара. А ўсё-ж, мяркуем, ня вельмі стасавальная, адэкватная драматычнаму тэксту й кантэксту Ўлашчыкаваае легенды. Жорсткая д'ябальская гульня, без якіх кольвечы правілаў, не варажыла нашаму «гульцу» ані кроплі надзеі на посьпех. Гульні зь д'яблам небясьпечныя і - безнадзейныя. Герой наш — такі-ж герой — гэта добра разумеў. І — адчайна змагаўся зь цяжкімі трагічнымі абставінамі, выходзячы, урэшце рэшт, пераможцам. Хаця ў тым зацятым працоўстве шалі дэманічных акалічнасьцяў ня раз пераважвалі ягоную рашучую натуру і скон змагара, здавалася, немінучы.

Як у выпадку з правальным намерам уцёкаў з ссылкі за мяжу, аб чым цьмяна згадвалася ва ўспамінах ягонага старэйшага калегі па выгнаньню Яўхіма Кіпеля. Маем уласнаручныя паказаньні самога ўцекача, напісаныя 24 сакавіка 1933 года следчаму ОГПУ (справа М. Улашчыка ў Інфармацыйным цэнтры МУС Кіраўскай вобласьці). Суворыя дэталі рызыкоўнага праекту высьвечваюць, абок іншага, валявую натуру Ўлашчыка-змагара (цытуем арыгінал):

«Под влиянием того, что считал приговор слишком жестоким и не соответственным вине, я по приезде на место ссылки в Нолинск решил бежать за границу. Для этого я решил предварительно просить перевода в Вятку, так как из самого Нолинска ввиду дальности расстояния от жел[езных] дорог бежать было трудно. В Вятку приехал после двукратного заболевания воспалением лёгких, слишком слабый для побега и имея предупреждение врача, что третье заболевание будет вероятно смертельным. В Вятке лечился у врачей и раз под влиянием минуты сказал Чернушевичу, что не имея никаких перспектив и сильно скучая, решил бежать из ссылки. Чернушевич отнесся к этому отрицательно, говоря, что это риск головой и что этого не следует делать ни в коем случае. Уговаривал он все время до самого момента моей посадки на параход. Бежать думал через Вятку-Нижний [Новгород]-Москву-Бологое. Дальше смотря по обстоятельствам. При переходе расчитывал, что помогут буржуазные белорусские организации, так как при переходе должен быть арестован. При мне был бессрочный паспорт, как документ для дороги, и цианистый калий, чтобы окончить самоубийством при случае ареста на советской стороне. Ц[ианистый] калий высыпал в камере при аресте в Слободском. Достал ц. калий в лаборатории Нолинской Ш[колы] К[рестьянской] М[олодежи], взял сам при посещении лаборатории приходя к зав[едующему] лабораторией Киппелю. Ц[ионистый] калий взят без его ведома. Ц. Калий был мною украден. При обыске в Медведке паспорт был у меня в носке, его не нашли.

(...) Вторично категорически заявляю, ручаюсь головой (падкрэслена ў тэксце - А.К.) и всем вообще, чем можно поручиться, что Чернушевич Н.Ф. очень резко и настойчиво уговаривал меня не делать побега, возвратиться в Нолинск и ждать конца ссылки. Писал собственноручно Улащик Н.Н.».

Пастановай Калегіі ОГПУ тагачаснага Горкаўскага краю 5-гадовая ссылка яму (тэрмін адлічваўся з дня першага арышту 11 чэрвеня 1930 году) замяняецца зaключэньнем у папраўча-працоўны лягер на рэшту тэрміну.

Такі вось няпросты, варты адмысловай аповесці сюжэт кшталту «Выжыць, каб перамагчы» - з усімі, адпаведна жанру, аксэсуарамі: інтрыга, канфлікт, драматычная развязка... Але да катарсіснага аблягчэньня пакуль вунь як далёка!

Наперадзе - вызваленьне, вясной 1935. Аднак фармальная свабода не прынесла палёгкі. На Радзіму шлях зачынены і «сьвяціцца» там небясьпечна. Ён адчуў гэта адразу-ж цягам кароценькага адскоку ў Менск, да радні, убачыўшы павернутыя сьпіны ўчарашніх знаёмцаў. Пра аднаго з такіх насцярожліва-абачлівых пазьней занатуе ў сваёй «Хроніцы»: «Я ведаў Крапіву, ён мяне ведаў з часу арганізацыі Цэнтральнага бюро краязнаўства, дзе [Кандрат] быў інструктарам па краязнаўству, а я, стараючыся ў тыя часы ўсіх зрабіць краязнаўцамі, часта [туды] заходзіў. Я толькі што ня тыцнуў рукі Крапіве, як убачыў, што ён ня хоча ні бачыць мяне, ні тым больш вітаца. Тое-ж было і пры спатканьнях, калі ўжо быў цалкам «нармальны», калі баяцца не было чаго».

Льга ўявіць сабе далейшы паварот Улашчыкавага шляху, затрымайся ён даўжэй на Бацькаўшчыне, дзе яго нечаканае зьяўленьне імгненна стаўляла «на вушы» тутэйшых віжоўцаў. Ніну Улашчык (у замустве Бялькевіч), старэйшую сястру Мікалая, вядомую ў той час настаўніцу, аўтарку некалькіх мэтадычных выданьняў па пэдагогіцы, праз які час арыштуюць і сашлюць на Калыму за адную толькі адмову стаць таёмным канфідэнтам спэцслужбаў. Але-ж і ў злавесную пору татальнага застрашэньня й падазронасьці далёка ня ўсе былі запалоханыя і ня ўсе «стукалі». Людзі супраціўляліся, хто як мог, бароніць свой выбар і чалавечую годнасьць.

Хоць менавіта Мікалаю Ўлашчыку той абаронча супраціў — скупа й напружана выкладзены ў спомненай «Хроніцы» — каштаваў немалых фізычных і псыхічных выдаткаў. Знямоглы й вычарпаны, пасля чароднага, на самым пачатку вайны, затачэньня ў Златавускім лягеры, ён канаў амаль невыратавальна. Дарэшты, здавалася,пакінулі сілы і мроі на лепшае. Але вось нечакана над зьнясіленым, паўжывым лягернікам-дахадзягай з-пад даху цёмна настылага бараку мільганула дрыготкім бляскам далёкая зорка. Магчыма не прамысьлівая сьвячэньне вяло й прывяло бяспамятнага зэка-туберкулёзьніка, дыстрофіка, выпушчанага за турэмную браму на «самастойнае» сканаьне (пад зьмяншэньне адсотка лягернага «адсейваньня») да чыгуначнага раз'езду Азнакаева ў Татарстане. Дзе яго, мала непрытомнага, падабраў на калёсы выпадковы возьнік і прывёз у Бугульму, да старэйшага брата Івана, лесьніка (такі спрыяе Гасподзь ахвярным пакутнікам.). Там Мікалая адходжвала малодшая сястра Волька, якая фактычна і «вярнула жыццё» зняможанаму брату. У хуткасьці на падмогу пад'едзе жонка Натальля Шамарына (у згаданым «Arche» памылкова - Шамаршына). Потым — Казань, сямейныя, больш-менш нармальныя — наколькі былі такімі ў часе ваеннага ліхалецьця й прогаладзі — варункі для выжываньня й аздараўленьня. Далей — асьпірантура ў Маскве.

Але ў тым драматычным вяртаньні зь небыцьця нябачна прысутнічала й спамагала яшчэ адна Абраньніца нашага пакутнага Рыцара. Імя яе — Беларусь. Дзеля якой яе абраньнік выжыў і перамог.



*Мікалай Улашчык сярод творчае моладзі Беларусі. З бакоў – М. Ткачоў, С. Панізнік, Я. Кулік, М. Купава, М. Чарняўскі, І. Марачкіна ды іншыя. Заслаўе, 1980 год.*

Пералістваю «Біябібліяграфічны паказальнік» М. М. Улашчыка (1996). У ім занатавана 205 друкаваных адзінак аўтара і водгукаў аб ім. Выйшла новае, пашыранае выданьне, з пабольшанай колькасьцю адпаведных публікацый. Але што ўражвае, міжволі наводзячы на сумную рэфлексію. Першы выхад ў друк будучага Гісторыка пазначана ў даведніку 1924 годам — нататкай пра краязнаўчы гуртох БДУ. Сьледам - штогадовыя публікацыі, з абрывам на 1930-м. Далей — прагал на 18 гадоў да 1948. Пасьля некалькіх бібліяграфічных пазіцый зноў (чацвёрты арышт...) сямігадовая пустка. Скрушліва падумалася: колькі-ж мог гэты ўпарты, няскораны шукальнік беларускае праўды зрабіць на палетку Беларушчыны за тыя наймабільнейшых у жыцьці дваццаць пяць гадоў! Скрадзёных, зглумленых усё тымі-ж, чорнай памяці Міністэрствамі «Праўды», «Братэрства» і... Злачынства.

Хіба што тыя «хранaлягічныя» лакуны кампэнсаваліся — агульным, анталягічным вынікам нашых упартых Беларусінаў.

У "Чорных лядах" Васіля Быкава адзін з пэрсанажаў, малады паўстанец, носіць прозьвішча Ўлашчык. Ласне яму, адзінаму з купкі асуджаных на самазабойства зма-

*Заканчэньне на бачыне 16*




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №9 (488)


## Жнівеньскі сход аддзелу БАЗА і прэзэнтацыя кнігі С. Навумчыка

У нядзелю, 13 жніўня, у Нью Ёрку прайшоў чарговы сход аддзелу БАЗА. Напачатку старшыня аддзелу В. Зайка паведаміў пра надыходзячую 27 Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Нью Брансуіку, Нью Джэрзі. Затым ён распавёў пра выхад кнігі С. Навумчыка "Сем гадоў Адраджэньня, альбо Фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995)". Гэтая кніга ёсьць надзвычай патрэбнай спробай асэнсаваньня падзеяў канца 1980-х—пачатку 1990-х гадоў, што прывялі да аднаўленьня беларускай незалежнасьці, з пункту гледзішча непасрэднага ўдзельніка падзеяў, дэпутата Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня.

Затым перад прысутнымі выступіў аўтар кнігі, сп. Сяргей Навумчык. Ён адзначыў, што кніга ёсьць вынікам клапатлівай працы, у тым ліку з дакумэнтамі той эпохі. У Нью Ёрк і Прагу былі перапраўлены архіў апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, і гэта дало магчымасьць дакладна ўзнавіць усе неабходныя абставіны, даты падзеяў і г. д. Сёньня, як ніколі, патрэба згадаць пра абставіны набыцьця Беларусьсю незалежнасьці стаіць надзвычай востра. Лукашэнка, які ўвесь час заяўляў, што гатовы паўзьці ў Маскву на каленях, аплёўваў незалежніцкія ідэалы, сёньня выдае сябе ледзь не за здабыўцу незалежнасьці, зь якога пачынаецца найноўшая беларуская гісторыя. Людзі, якія стваралі незалежную Беларусь — сёньня замоўчваюцца, як-бы іх і не было. Незалежнасьць быццам звалілася зь неба, аднак гэта зусім ня так. Менавіта дзеля таго, каб нагадаць, як на самой справе адбываліся падзеі лёсавырашальнага для Беларусі часу, і была напісаная кніга. Менавіта стварэньне беларускай незалежнай дзяржавы ёсьць найважнейшай падзеяй найноўшай гісторыі Беларусі. Фальшыва прэтэндуючы на ролю творцы беларускай дзяржавы, Лукашэнка як-бы імкнецца давесьці, што ён-жа мае права і ліквідаваць яе, дзеля асабістых амбіцыйных плянаў заняцьця вышэйшай пасады ў Маскве.

Таму асабліва важна нагадаць, хто і як змагаўся за незалежнасьць Беларусі, і якой была на самай справе пазыцыя Лукашэнкі адносна ўзьніκненьня беларускай незалежнай дзяржавы. Гэта надзвычай актуальна цяпер, калі ў сьвятле газавых ды іншых спрэчак і закулісных гульняў з Расеяй Лукашэнка спрабуе здабыць сабе рэпутацыю "незалежніка". Сп. Навумчык коратка спыніўся на асноўных падзеях канца савецкага панаваньня ў Беларусі і адзначыў ролю такіх асобаў, як З. Пазьняк, В. Быкаў, М. Ткачоў, І. Германчук ды шмат іншых, у здабыцьці назалежнасьці. Асобна ён спыніўся на змаганьні з камуністычнай большасьцю ў Вярхоўным Савеце, падзеях 15-гадовай даўніны, ГКЧП, дэманстрацыях ды шэсьцях, прыняцьці актаў аб замацаваньні сувэрэнітэту і незалежнасьці ў 1991 годзе, аднаўленьні нацыянальных сымболяў, дзейнасьці апазыцыі БНФ, выбарах 1994 году, зьбіцьці дэпутатаў і рэфэрэндуме 1995 году, і пра шмат іншых падзеяў. Асобна прамоўца спыніўся на рэакцыйнай дзейнасьці Лукашэнкі, падмацоўваючы аповед выпадкамі, сьведкам якіх быў ён сам. Напрыканцы выступу аўтар кнігі адмыслова падзякаваў сп. З. Пазьняку за дапамогу ў стварэньні кнігі.

Затым да прысутных зьвярнуўся сп. Зянон Пазьняк. Ён у прыватнасьці сказаў: "Сёньня вельмі радасны дзень, чаканы даўно. Выхад кнігі Сяргея Навумчыка пра тыя лёсавызначальныя часы аднаўленьня незалежнасьці — вялікая грамадзкая і культурная падзея ў жыцьці Беларусі. Сёньня праз палітыку рэжыму адбываецца зьнішчэньне нават не гісторыі, а гістарычных прынцыпаў, што ляжаць у падвалінах сучаснай беларускай незалежнасьці. Досьлед, пра які сёньня гаворым, зрабіў сам удзельнік працэсу, бо гісторыкі, што мусілі-б заняцца гэтай тэмай — або баяцца, або ня маюць магчымасьці весьці досьледы і надрукаваць іх. Важна, каб усе здабыткі тагачаснай барацьбы, і досьвед яе, былі скарыстаныя ў сёнешняй і будучай працы, каб ня трэба было вынаходзіць ровар. Таму гэтая кніга — першая ластаўка."

Затым сп. Пазьняк распавёў пра часы Адраджэньня 1980-1990-х: "Тая сыстэмная праца, што вялася з дня ў дзень — ацэньваю яе як бітву пад Воршай і як нашую перамогу. Чаму гэтая перамога была здабытая? Вось прычыны: 1) была створаная адраджэнская арганізацыя (БНФ), што базавалася на нацыянальнай ідэі; 2) прадстаўнікі гэтай арганізацыі апынуліся ў патрэбным месцы ў патрэбны час, правільна скарысталі ўвесь магчымы патэнцыял; 3) была массавая падтрымка нацыянальных ідэяў у частцы беларускага грамадзтва, якую называю "шляхецтва духу". Усе гэтыя чыньнікі, а не "пасланьне зь неба" прывялі да стварэньня сучаснай незалежнай беларускай дзяржавы, што выдата апісвае кніга Сяргея Навумчыка."

Затым перад прысутнымі выступілі сьведка падзеяў, былая дэпутатка Менгарсавету і сябра апазыцыі БНФ спн. Галіна Пазьняк (Вашчанка), а таксама Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі спн. Івонка Сурвілла, і Старшыня Галоўнай управы БАЗА сп. Антон Шукелойць, якія адзначылі важнасьць і своечасовасьць выхаду кнігі.

Сп. З. Пазьняк распавёў затым пра свае сустрэчы ў Варшаве з моладзьдзю, якая брала ўдзел у падзеях 19-25 сакавіка ў Менску: "Тыя, хто думае, што ў Беларусі няма адданых і моцных духам змагароў, вельмі памыляюцца. Ёсьць людзі, іх шмат, якія любяць Беларусь, і гатовыя за яе змагацца. Трэба, каб гэтыя людзі адчувалі падтрымку, і каб яны ведалі пра дзейнасьць дыяспары".

Затым у разьдзеле "Рознае" з паведамленьнем пра высунуты праект аднолєнага варыянту "Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі" у Кангрэсе ЗША і патрэбе падтрымаць яго, выступіў сп. Вячка Станкевіч.

Жадаючыя маглі набыць кнігу С. Навумчыка і атрымаць аўтограф аўтара.

*Віталь ЗАЙКА*

## Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **10 верасьня 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне па адрасу:

**401 Atlantic Avenue, Brooklyn, NY 11217**

Пачатак а 12-й гадзіне папаўдні.

Даезд цягнікамі падземкі **A, C** да прыпынку **Hoyt-Shermerhorn Street**, або падземкі **F** да прыпынку **Bergen Street**.

Запрашаем усіх жадаючых.

**Уплаты дасылайце на адрас:**
*Sergei Petrovich*
*115 Ave. S apt. 9*
*Brooklyn, NY 11223*

**Чэкі выпісвайце на**
*Belarusan American Association.*

## ПАДЗЯКА за ахвяраваньні на рамонт
### Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага

Рамонт Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне - галоўнае сьвятыні Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы й ягонай залі, што служыць цэнтрам дзейнасьці беларускае эміграцыі на ўсю краіну, дзякуючы грашовай і працоўнай ахвярнасьці сьведамае значэньня гэтага асяродку часткі вернікаў ды беларускіх патрыётаў, ідзе пасьпяхова далей і можна спадзявацца, што будынак да лістападу 2007-га году, 50-х угодкаў уходзінаў у яго беларускае грамады, будзе цалкам адноўлены й упрыгожаны так, што ўсім нам можна будзе ў ім яшчэ з большай пабожнасьцю маліцца, з гонарам і прыемнасьцю зьбірацца на таварыскія сустрэчы й грамадзкую працу ды радасна спраўляць у гэтым кутку роднага краю на чужыне прыватныя й нацыянальныя ўрачыстасьці.

Парафіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага з малітвай за Божае спрыяньне й узнагароду ім шчыра дзякуе ніжэй пададзеным асобам і ўстановам, што іхнымі шчодрымі ахвярамі летась і сёлета спрычыніліся да набліжэньня гэтае мэты:

| | |
|---|---|
| Ананімна | $1000 |
| Бартуль Вера | $100 |
| Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Нью Ёркаўскі аддзел | $3000 |
| Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Нью Ёркаўскі аддзел (на закуп гукавой апаратуры) | $3000 |
| Вашкевіч Мікалай і Зоя | $100 |
| Войтанка Ганна | $50 |
| Ворт Кон | $50 |
| Др. Расьціслаў Гарошка | $1000 |
| Гойдзь Валеры і Сьвятлана | $200 |
| Данілюк Барыс і Марыя | $850 |
| Дворнік Валеры | $200 |
| Кансысторыя БАПЦ | $5000 |
| Капытка Сяргей і Тамара | $100 |
| Касьцюкевіч Юры і Браніслава | $500 |
| Кіпель Алеся | $2000 |
| Др. Вітаўт Кіпель | $750 |
| Колбун Анатоль | $800 |
| Падлескі Андрэй і Галіна | $100 |
| Др. Орса-Романо | $2000 |
| Рагойша Надзея | $50 |
| Романо Мікалай | $2000 |
| Сагановіч Мікалай і Леаніла | $5240 |
| Сільвановіч Аляксандар і Ніна | $50 |
| Др. Смаршчок Мацей | $50 |
| Тальянскі Анатоль | $500 |

Разам з гэтым, Парафіяльная Рада дзякуе др. Алле Орса-Романо за тое, што яна ў значнай меры спрычынілася да добрага выніку вышэй пададзенага збору й заклікае тых, што яшчэ не далажыліся іхнімі грашовымі ахвярамі на Божую й нацыянальную справу аднаўленьня будынку Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, зрабіць гэта з шчодрасьцю як найхутчэй. Падзякі за ахвярную працу пры аднаўленьні будынку будуць абвяшчаца асобна.

*Парафіяльная Рада*
*Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага*

# Маладзёвая

Пішыце нам на адрас: moladz_bielarus@tut.by

## Конкурс у Коласаўскі ліцэй

Каля васьмі дзясяткаў навучэнцаў працягваюць традыцыі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа, які пачаў працу з 1 кастрычніка 1991 году. У 2003 годзе быў падпісаны загад Міністэрства адукацыі аб ліквідацыі ліцэю, ліцэістаў выселілі зь іх будынку на вуліцы Кірава, 21 у Менску, аднак ліцэй захаваўся, заняткі працягваліся ў хатніх умовах, у офісах грамадзкіх арганізацыяў, нават за мяжой. Коласаўскі ліцэй застаецца прэстыжнай навучальнай установай: конкурс сёлета склаў чатыры чалавекі на месца.

Ліцэйскі багаж маюць у сваім актыве шмат якія вядомыя людзі. Дзясяткі выпускнікоў праявілі сябе як таленавітыя паэты, журналісты, рэжысэры, акторы, мастакі, літаратура- і мастацтвазнаўцы. Абазнаным людзям добра вядомыя імёны колішніх ліцэістаў: паэтаў Ільлі Сіна, Міхася Баярына, Сяргея Патаранскага, філёзафа Паўла Баркоўскага, палітоляга Алеся Міхалевіча, актораў Веры Шыпілы, Рамана Падаляткі, мастака Антона Крыштаповіча... Дарэчы, да сярэдзіны 1990-х ліцэй закончылі дзеці некаторых цяперашніх высокіх беларускіх чыноўнікаў.

## Конкурс у беларускія ВНУ

У Беларусі завяршылася ўступная кампанія ў ВНУ. Паводле папярэдніх вынікаў, сёлета сярэдні конкурс па краіне склаў 2,8 чалавека на месца. У мінулым годзе конкурс быў вышэйшы на 0,1 бала.

У Міністэрстве адукацыі паведамляюць, што сёлета на бюджэтную дзённую форму навучаньня было пададзена 57 500 заяваў. Студэнтамі сталі больш чым 22 тыся. чалавек. Паводле папярэдніх зьвестак, найвышэйшы конкурс – 16,4 чалавека на месца – аказаўся на факультэце кампутарнай графікі Пэдунівэрсытэту імя М. Танка, 14,9 чалавека на месца – на факультэце дызайну БДУ, 10,2 чалавека на месца – на факультэце ўсясьветнай эканомікі Беларускага нацыянальнага эканамічнага ўнівэрсытэту.

Высокі конкурс на асобныя факультэты адзначаны таксама ў Акадэміі мастацтваў, Акадэміі міліцыі, Камандна-інжынэрным інстытуце Міністэрства па надзвычайных сытуацыях і ў іншых ВНУ.

Найменшай папулярнасьцю ў абітурыентаў карысталіся тэхнічна-матэматычныя факультэты. Так, у БДУ на факультэтах мэханікі й дастасоўнай матэматыкі сёлета быў недабор заяваў, і ў абодвух выпадках конкурс склаў 0,8 чалавека на месца. Невысокі конкурс – 1,1–1,2 чалавека на месца – выявіўся таксама на тэхнічна-хімічных і матэматычных факультэтах БДУ і іншых ВНУ краіны.

Агульны сярэдні конкурс па Беларусі сёлета меншы за конкурс мінулага году. У 2004 годзе агульнабеларускі конкурс быў 3,1 чалавека на месца. Штогадовае паніжэньне конкурсу ў Міністэрстве адукацыі тлумачаць вынікам дэмаграфічнага спаду ў краіне. Але гэта не адзіная прычына паніжэньня прэстыжу вышэйшай адукацыі, цьвердзіць колішні прарэктар БДУ Анатоль Паўлаў: "Чамусьці ў дзяржаве прэстыж адукацыі нічога ня варты. Адзін старэецца ўсё жыцьцё, а побач ягонаму прыязьніку гэта не цікава. Бо потым куды? У АМАП. І там ён атрымлівае больш за прафэсара. Вось і ўсё. Дык навошта старацца? Якія краіны апошнімі гадамі зрабілі істотны крок у разьвіцьці? Тыя, што ўклалі сродкі ў адукацыю. Але калі ўлады будуць укладаць у адукацыю, а не ў АМАП, – дык хто ж будзе дручкамі махаць? Таму прэстыж адукацыі й падае. Гэта шматфактарная, канечне, праблема. Але названыя фактары відочныя".

## Пакараньні моладзёвым актывістам



Суд Цэнтральнага раёну Менску пакараў актывістаў моладзевага дэмакратычнага руху арыштамі й штрафамі за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. Юлія Гарачка асуджаная да 4-х сутак арышту.

23 жніўня, праз паўгоду пасьля ліквідацыі наметавага лягеру, 14 актывістаў моладзевага дэмакратычнага руху каля будынку ўпраўленьня ўнутраных справаў Цэнтральнага раёну Менску на вуліцы Арлоўскай раздавалі міліцыянтам паперкі, на якіх былі цытаты з Кодэксу гонару самураеў, а таксама афарызмы вядомых людзей. Усіх затрымалі. На васьмёх чалавек склалі пратаколы, шасьцёх непаўналетніх адпусьцілі.

Першым судзілі Яўгена Іокшу. Ён патлумачыў судзьдзі, што ўручалі міліцыянтам надрукаваныя выказваньні вядомых людзей пра гонар і сумленьне, каб падзяліцца зь імі сваімі маральнымі прынцыпамі. Судзьдзя пакарала хлопца штрафам на 620 тысяч рублёў (каля $300 даляраў).

Юля Гарачка казала на судзе, што была ўдзельніцай падзеяў на Кастрычніцкай плошчы падчас выбарчай кампаніі. Яе адну судзьдзя арыштавала на чацьвёра сутак. Уладзімера Лукшу, Віктара Дзенісевіча і Лілю Міхайлаву судзьдзя Іна Шайко аштрафавала на 620 тысяч рублёў.

Ліля Давыдоўская выказала недавер суду і папрасіла адваката. Судзьдзя не задаволіла хадайніцтва й пакарала дзяўчыну большым штрафам — 930 тысяч рублёў.

*Паводле Радыё Свабода*

## Яднацца трэба са сваімі



Апошнім часам на нашу фронтаўскую эл. пошту і на маё імя пачасьціліся лісты маладых беларусаў, якія хочуць даведацца, што сталася з Народным Фронтам, чаму раскалоўся, чаму змалела ягоная сіла і палітычныя ўплывы. Шмат каго бянтэжыць рэзкая крытыка з нашага боку цяперашняй "кааліцыйнай апазыцыі" і крытычныя ацэнкі дзеяньняў яе ўдзельнікаў і асобаў. Вось тыповыя пытаньні:

"Я вельмі прашу Вас патлумачыць, чаму Вы ўважаеце Партыю БНФ за прарасейскую апазыцыю?"

"У маёй галаве не ўкладаецца, што сп. Вінцук здольны сьвядома выкарыстоўваць нас усіх улучна зь ягоным сынам дзеля дасягненьня прарасейскіх мэтаў."(Юрась Віцьбіч)

Пастараюся адказаць каротка пра галоўнае, бо на гэту тэму і мной, і сябрамі Фронту ўжо дастаткова шмат напісана ў адраджэнскім друку. Праўда, ўлічваю абставіны, што ня кожнаму гэты друк даступны.

* * *

Ніхто не сумняваецца, што В. Вячорка за Беларусь, за незалежнасьць, мову і г.д. і ніхто ня лічыць яго "прарасейскім", "агентам" і т. п. Толькі трэба памятаць, што палітыка мае свае законы і правілы, і калі іх ігнараваць, то добрымі пажаданьнямі ў такім выпадку можна вымасьціць дарогу ў пекла. Японія не была фашыстоўскай краінай, але дзеля сваіх інтарэсаў пайшла на хаўрус з Гітлерам. У выніку на Японію пасыпаліся атамныя бомбы і краіна страціла свае тэрыторыі.

Адколатая частка Фронту, змагаючыся супраць Лукашэнкі, пайшла на хаўрус з прамаскоўскімі партыямі і нават з камуністамі, думаючы, магчыма, пашырыць на іх свой нацыянальны ўплыў, але не разумеючы, што паддалася чужой палітыцы. У выніку прамаскоўскія партыі здамінавалі так званую апазыцыю, а фронтаўцы зь Вячоркам апынуліся на трэціх ролях; верхаводзяць Калякін, Лябедзька, Бухвостаў, усюды гавораць і пішуць па-расейску, езьдзяць у Маскву да Караганава ды Маркава, ды Нямцова, выбіваюць прыхільнасьць і чужыя сродкі, улягаюць чужой палітыцы, і Вячорка ў гэтай кампаніі як шэраговец.

Усё гэта абазначае паўзучую паразу беларускай нацыянальнай ідэі (ідэі, на якой трымаецца нацыянальная дзяржава і нацыя). У гэтым і сутнасьць здрады. Не сталі змагацца за беларускую справу, як нашыя адраджэнцы дзяды-прадзяды, як Народны Фронт супраць камунізму, СССР ды КПСС, а паддаліся хаўрусьнікам дзеля хаўрусу, дзеля абяцанных прагматычных інтарэсаў, ахвяраваліся вялікім дзеля малога.

У выніку на сёньняшні дзень Беларусь, фактычна, апынулася без нацыянальнай палітычнай альтэрнатывы. Калі-б цяпер раптам абваліўся рэжым Лукашэнкі, то да ўлады ў Беларусі (пры дапамозе Масквы, калякіных і лябедзек) прышлі-б зноў антыбеларускія сілы. Дзесяць гадоў таму, калі ў беларускай апазыцыі і палітыцы дамінаваў Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", такога ніколі-б ня здарылася. У Беларусі была нацыянальная палітычная пэрспэктыва.

Пра ўсё гэта я казаў, пісаў і папярэджваў і сем, і восем, і дзесяць гадоў таму. Гарантыя палітычнай перамогі не ў фармаваньні кааліцыяў з апанэнтамі дзеля дасягненьня блізкіх мэтаў, а ў стварэньні моцнай палітычнай беларускай сілы, якая будзе грунтам стратэгічных дасягненьняў нацыянальнай палітыкі. Ніхто ня можа сказаць, што нічога ня ведаў і ня чуў, калі паўстане пытаньне аб адказнасьці. Ёсьць канкрэтныя вінавайцы ў разгроме Японіі. Цяперашняя задача ўсёй нашай беларускай супольнасьці – вярнуць Беларусі нацыянальную палітычную пэрспэктыву, каб мець будучыню.

*Зянон ПАЗЬНЯК*

## "Рускія" ў Польшчы

Летам у Польшчу прыехала пару сот студэнтаў зь Беларусі, якія пацярпелі ад рэжыму за сваю нацыянальна-грамадзкую дзейнасьць, каб са згоды польскага ўраду прадоўжыць тут сваё навучаньне. Я бачыў сярод іх шмат добрых беларускіх хлопцаў і дзяўчат. Але была і моладзь іншага кшталту. Мне прыходзілася ў гэты час размаўляць з афіцыйнымі польскімі асобамі, што сустракаліся з маладымі нацыянальнымі змагарамі. Выгляд ў польскіх асобаў пасьля спатканьня быў разгублены. Беларускую мову яны там чулі нячаста і былі зьдзіўленыя, што прыехала столькі "рускіх" (так яны выразілі), якія гаварылі па-расейску і, дарэчы, ні пра беларускую культуру, ні пра палітыку ня мелі паняцьця. Прытым некаторыя дзяўчаты былі апранутыя так, як на Захадзе ўбіраюцца прастытуткі. У чарговы раз я патлумачыў палякам становішча, але, відаць, гэта мала прыбавіла ім разуменьня.

У першыя-ж дні "рускія" напіліся ў інтэрнаце і пабіліся з палякамі. Нікога ня выгналі. Потым напіўся алькаголю і нахуліганіў сын А. Мілінкевіча (таксама, аказваецца, "рэвалюцыянер", дарэчы, піў і грубіяніў у Польшчы пастаянна). Гэтага ўжо выгналі. А нядаўна самыя-ж беларускія студэнты (нармальныя студэнты) злавілі камбінатара: прадаваў паперкі-даведкі ўсім жадаючым пра прыналежнасьць да наметавага лягеру моладзі на плошчы Каліноўскага ў Менску. Браў нядорага – па трыццаць даляраў. Вось ужо сапраўды якія бацькі – такія і дзеці. Лепш-бы яны нікуды ня ехалі, ня ганьбілі-б Беларусь. Толькі для такіх не існуе і няма Беларусі.

*Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ*

бачына

# Фальклёр у сучасным жыцьці

Кожны з нас напэўна чуў пра гісторыі Гары Потэра, Уладара Пярсьцёнкаў, Сьпячую Лагчыну і шмат шмат іншых. Фільмы з містыкай заўсёды цешацца папулярнасьцю сярод гледачоў розных узростаў. Тым больш, што з дапамогаю кампутарных тэхналёгіяў можна дасягнуць сапраўднага казачнага эфэкту. Пачынаючы з часоў Мэры Шэйлі й Брэма Стокэра, містыка трывала ўвайшла ў шэраг літаратурных стыляў, аб'яднаўшыся пад назвам "гатычны раман". Маючы захапляючы сюжэт, тыя кнігі выдатна прадаваліся, што й зьвярнула ўвагу кінематаграфістаў. Такім чынам, "гатычная" традыцыя заняла сваё важкае месца ў кінаіндустрыі. Разам з гэтым, такія, здавалася-б, сур'ёзныя рэчы як вядзьмарства ці вупарства сталіся забаўкамаю на ноч перад днём Усіх Сьвятых.

Натуральна, містыка прыцягвае ўвагу ня толькі мідыюмаў ды гадалак, але й дасьледчыкаў. Не сакрэт, што ўсе магі й іх казачная атрыбутака ёсьць перш за ўсё вынікам перамяшаньня эўрапейскага паганства (прынамсі кельцкага) і габрэйскае Каббалы, з дамешкам цэнтральна- й усходне-эўрапейскіх жахаў пра вампіраў (трансыльванскі Дракула), ды цалкам сфармавалася пад уплывам позьне-віктарыянскім аккультызму. Гэта ствaрыла густы сіроп страшылак у брытанскай літаратурнай традыцыі.

Праўда, варта адзначыць, што ня для ўсіх "магія" зьяўляецца забаўкай альбо проста жаданьнем "пачараваць". Шмат людзей, якія ўзіраюцца ў карані гэтых традыцыяў, знаходзяць для сябе новыя крыніцы духоўнасьці. У ЗША і Вялікабрытаніі, дзе кельцкая традыцыя набыла большую папулярнасьць, чым германская, такая зьява як віканізм набыла варты ўвагі размах. Вікка, гэта рэлігія якая знайшла сваё афіцыйнае афармленьне і ўдактрынаваньне ў сярэдзіне дваццатага стагодзьдзя, высілкамі Джэральда Гарднэра. Заўважная кельцкасьць Вікка абумовіла ягоны распаўсюд пераважна ў англамоўных краінах, хоць шмат падобных элементаў можна ўбачыць і ў Францыі, дзе гальская традыцыя заўжды пераважала ў казках і легендах, ды пазьней прывяла да фарамаваньня гатычнае архітэктуры на поўначы гэнае краіны. Хоць існуе шмат пытаньняў наконт сапраўднае старадаўнасьці рэлігіі Вікка, сувязь са старажытным паганствам не выклікае сумневу. Можна браць пад сумненьне існаваньне акурат такое арганізацыі паганцаў, але тое, што дахрысьцянскія рэлігіі "барбарскае" Эўропы мелі свае інстытуты, здаецца ўжо прынята большасьцю навукоўцаў.

Дарэчы, не заўсёды памкненьні віканаў сустракаюць паразуменьне.



*Кнігі і фільмы пра Гары Потэра шмат зрабілі для зьмены ўяўленьня пра чараўніцтва*

## Ведзьмы Гары Потэра прыходзяць у Хупстаўн, альбо аб тым, як у маленькім мястэчку адкрылася школа ведзьмаў

Праўда, насельнікі 6-тысячнага Хупстаўну, штат Ілінойс, ня надта шчасьлівыя з гэтага. Насамрэч, тры гады таму, яны пачалі збіраць подпісы супроць адкрыцьця гэткай школы ў іхным паселішчы. Абсалютовая большыня жыхароў зьяўляюцца хрысьціянамі-баптыстамі, таму яны бачаць дзейнасьць Школы Вікка антыбоскай і ня прымальнай для свайго асяродзьдзя.

Эд Хаббард, дырэктар школы, спачатку заснаваў Інтэрнэт-курсы па нэапаганству ды Вікка ў прыватнасьці. Згодна зь ім, колькасьць студэнтаў на дадзены момант складае звыш 120 000 чалавек па ўсім свеце, і штодня праз інтэрнэт рэгіструецца паміж 20 і 35 чалавек. Эд Хаббард, які пачаў працаваць у Чыкага, для адкрыцьця будынку школы, вырашыў пераехаць у Хупстаўн, што разьмешчаны 100 міляў на поўдзень ад гораду. Прычынаю ёсць тое, што нерухомасьць там значна таньнейшая.

Чакаецца, што неўзабаве ў местачка прыедзе шмат новых студэнтаў, і гэта непакоіць мясцовае насельніцтва. Яны баяцца масавага "прылёту" ведзьмаў. Дарэчы, ужо адкрыўся й першы гэшэфт па гэтай тэматыцы. Кэтрын Новак, мае шапік, у якім яна гандлюе зёламі, вуду-лялькамі ды рознай літаратурай. Зразумела, яна крыўдзіцца зь "нецалерантнасьці" тутэйшых, бо іх адносіны да яе сувязі са школаю ня надта спрыяюць яе прадпрыемству. Але пытаньне суіснаваньня належыць да іншай размовы.

Праўда, гэта ня адзіная навучальная ўстанова такога кшталту. Па-першае, у інтэрнэце ёсьць некалькі "школаў", якія прапануюць такія паслугі. Па-другое, у штаце Вэрмонт у сэмінарыі Чэрры Гілл прапаноўваюць курсы па паганскай тэалёгіі. У адрозьненьні ад інтэрнэтных школаў у ёй трэба жыць паводле статуту сэмінарыста.

## Адкуль такі ўсплёск?

Сам Хаббард лічыць, што павышаная цікавасьць грамадзтва да вядзьмарства выкліканая "менш адмоўным" паказам яго ў галівудзкіх фільмах. Не сакрэт, што фільмы пра Гарры Поттэра, а праз іх і кнігі пра яго, сталі галоўнай прычынай такога ўсьплёску.

Па афіцыйных дадзеных 2001-га году, 134 000 насельнікаў ЗША лічаць сябе Вікканамі. Гэтая колькасьць расьце.

У Эўропе шмат эўрапейцаў бачаць у паганстве магчымасьць усталяваць духоўны кантакт з сваімі продкамі. Напрыклад, у Ангельшчыне, штогод адбываюцца язычніцкія фэстывалі ў Солсбэры, дзе знаходзіцца знакаміты Стоўнгэндж.

Гэты трэнд набыў папулярнасьць і ў музыцы, калі ў 90-х гадох паганскія матывы стала ўліліся ў рок. Сёньня існуе шэраг такіх гуртоў зь Нямеччыны, Фінляндыі і, зразумела, зь Беларусі.

У Беларусі ў прыватнасьці, сёньня назіраецца пэўны рэлігійны ўсьплёск. Дзяржава актыўна дапамагае адраджэньню дакастрычніцкага праваслаўя. Актывізуюцца й каталікі ды пратэстанты. А суседняя Польшча разам з Ірляндыяй падкрэсліваюць сваю адданасьць хрысьціянскай традыцыі, нягледзячы на тое, што сярод насельніцтва Эўразвязу пераважае атэізм ды агнастыцызм.

Хоць беларускія язычнікі ня маюць моцнага афіцыйнага прадстаўніцтва ў Беларусі, язычніцтва вельмі папулярнае. На самым пачатку гэтага стагодзьдзя сапраўднымі гітамі былі кнігі "сибирской целительницы" і цяпер ужо памерлага Юрыя Лонго. Сярод беларускіх аўтараў можна вылучыць Сяргея Хмару, Антаніну Хатэнку, Алеся й Юлію Шамак. Выдаецца кнігі беларускіх аўтараў, дзе прыводзяцца старыя тэксты малітваў ды загавораў, большасьць якіх маюць хрысьціянскую афарбоўку.

Але ці сапраўды амэрыканскія фільмы сталі ўплыўным фактарам такое цікаўнасьці ў Беларусі? Напэўна не. Вядзьмарак у вострых чорных капялюшах зрэдку можна ўбачыць, але разглядаецца гэта як чарговы галівудзкі бзік. Што да язычніцкіх традыцыяў ўласна, то яны ня маюць такое гатычнае афарбоўкі, якая так моцна рэзрэкламавана Галівудам. У Беларусі няма патрэбы займацца мэдыя-распаўсюдам язычніцтва ці вядзьмарства, яно проста існуе. Для большасьці беларусаў язычніцкія звычаі прывабныя сваім эстэтызмам ды духоўнасьцю, і яны не заўсёды канфліктуюць з хрысьціянскай набожнасьцю (нават пры парафіях з самымі гатычнымі касьцёламі). Ня кожны беларус нават задумваецца, што гэта нешта дахрысьцянскае. Купальле, напрыклад, гэта прыгожая традыцыя й выражэньне любові да прыроды, і бязь яго ніяк ня можна ўявіць сабе сьвятога Яна.

*Пры падрыхтоўцы матэр'ялу быў выкарыстаны артыкул Дзюрэлла Досана з ABCnews.com, а таксама ўэбстаронкі Covenant of Goddess, Wikipedia.*



*Паганства асацыюецца з народнымі традыцыямі, што бачна на гэтым здымку з галяндзкага фэстывалю.*

У мястэчку Гарадок на Беласточчыне 20 – 21 ліпеня сёлета прайшоў чарговы, 17-ы па ліку, фэстываль рок-музыкі. Ягоможна было назваць цалкам беларускім, бо, нягледзячы на тое, што адбываецца ён на другі бок ад дзяржаўнай мяжы, але большая частка выступоўцаў – 90% - складаюць музыкі зь Беларусі. А вось чаму менавіта там, у лесе пад Беластокам, і чаму ў тым выглядзе, які сёньня мае, і чаму рок-фэстываль мае назоў "Басовішча", распавядае прафэсар Беластоцкага ўнівэрсытэту Алег Латышонак, адзін з ягоных заснавальнікаў:

**А. С.: - Распавядзеце, калі ласка, як зьявілася ідэя арганізаваць канцэрты, з чаго пачалося "Басовішча", як гэта ўсё зарадзілася?**

*А.Л.: - Раней гэта быў хор беларускага аб'яднаньня студэнтаў "Бас". А пачалося ўсё з таго, што калісьці зрабілі мы сьвяткаваньне разгону Беларускай работніцка-сялянскай Грамады ў вёсцы Стараберазова. Атрымалася добра. Прыйшлі людзі, параскавалі. Калі мы вярнуліся дадому, у Бельск-Падляскі, падумалі, што на адных успамінах старых людзей мы далёка ня ўедзем, што трэба надалей зрабіць нешта адкрытае. І тут Вячаслаў Харужы сей і кажа: "Я ведаю, што мы зробім – рок-фэстываль!" Мы ў адзін вечар усё прадумалі, як гэта зробім, каб было цікава, бо ўжо раней былі на такім мерапрыемстве ў беларусы пакуль яшчэ маюць трошкі постсавецкую мэнтальнасьць. Я не хачу пакрыўдзіць, мы думаем па-рознаму. Але вельмі высока стаўлю крэатыўныя рысы беларусаў.*

**А. С.: - Вялікі Вам дзякуй за тое, што Вы робіце. А што бы Вы пажадалі беларускім музыкам надалей?**

*І. К.: - Далейшага разьвіцьця беларускасьці ў іх творчасьці і каб не баяліся ісьці альтэрнатыўнымі напрамкамі. Трэба шукаць сваю дарогу, трэба ісьці сваім шляхам – як музычным, так і мэнтальным, асабістым. Нельга спыняцца і пачынаць выкарыстоўваць часта паўтараючыеся ўзоры, трэба стварыць нешта сваё і бараніць сваё. Гэта першыя пажаданьні. А наступныя – усім беларусам: каб не баяліся зьменаў у сваім жыцьці і жыцьці сваёй Дзяржавы. Не забывацца, што яны Беларусы. Выхоўваць сваіх дзяцей у беларускай культуры і мове. Каб мовай часьцей карысталіся, каб яе часьцей у сто разоў было чуваць.*

**А. С.: - Як па-вашаму, можа так стаць, што "Басовішча" з цягам часу ператворыцца з беларускага фэстывалю ў эўрапэйскі, дзе будуць граць гурты з розных краінаў?**

*І. К.: - Усё магчыма, на мой погляд, і калісьць магчыма, гэта будзе славянскі фэстываль, фэст славянскай музыкі, як традыцыйнай, так і альтэрнатыўнай.*

**А. С.: - Няхай жыве "Басовішча"!?**

І.К.: - *Так, няхай жыве "Басовішча", але не будзем забывацца пра беларускі бок!!!*

"Што для Беларусі значыць рок-фэстываль "Басовішча" ня толькі як рокавая зьява, але і ў шырокім сэнсе музычнай культуры?" – на гэтае пытаньне адказвае музычны крытык і карэспандэнт Радыё "Свабода" ***Зьміцер Падбярэзкі***:

*- Я хацей-бы сказаць, што калі-б ня сёньняшняя сытуацыя, якая ёсьць у Беларусі, што адбіваецца ў тым ліку і на рок-рынку, то, магчыма, пра нейкае істотнае значэньне казаць не даводзілася-б, бо калі-б усё было нармальна ў Беларусі, адбываліся-б фэстывалі, у рамках аднаго з іх быў-бы штогадовы конкурс. Але, пакуль такога няма, сёньня "Басовішча" ўяўляе сабой, па сутнасьці, адзіны фэстываль, дзе ўсе калектывы, не баючыся, што ім забароняць выступаць, ці не дадуць дазвол на тэксты іх песень, едуць тут выступаць. Плюс да ўсяго, гэта шанец паказаць маладым музыкантам, гэта зразумела, бо не настолькі разьвіта структура шоў-бізнэса нават у Менску, у сталіцы, каб была сыстэма нейкіх клюбаў, дзе-б маладыя маглі набірацца вопыту, досьведу, досьведу артыстычнага, каб далей выходзіць на больш вялікія пляцоўкі. Такога практычна няма. Ці, дакладна кажучы, мала такіх клюбаў. Дык вось з гэтага пункту гледжаньня "Басовішча", канечне, уяўляе сабой такую зьяву, якая павінна існаваць у любой структуры шоў-бізнэса – пачынаеш, літаральна, з дваравога, потым нейкія клюбікі кшталту забягалавак, потым больш прэстыжныя, а потым ужо, калі пашанцуе, калі гэта вытрымаюць – гэта ўжо пракрутка па фэстывалях, туры. І вось з гэтага пункту гледжаньня, "Басовішча" канечне, унікальная зьява. Хоць, я яшчэ раз вяртаюся да таго, з чаго пачаў, каб была іншая сытуацыя ў Беларусі, так сёньня "Басовішча" страціла-б сваё значэньне.*

**А. С.: - А што трэба зрабіць у Беларусі, каб там зьявіўся свой, альтэрнатыўны фэстываль?**

*З. П.: - Я думаю, што першае, што трэба зрабіць, каб улада перастала змагацца зь ведзьмакамі – шукаць нейкай пагрозы там, дзе яе існаваць увогуле не можа. Паколькі ў нас дзяржава ўмешваецца ў ва ўсё, і нават у шоў-бізнэс, пачынае кіраваць нейкімі фэстывалямі, выкладоўваць грошы на гэтыя фэстывалі, вызначаць нейкіх сваіх пераможцаў, вызначаць ліміты гучаньня, беларускіх музыкантаў даваць у дзіры і гэтак далей, гэта проста ператвараецца ў такі недарэчны адбітак часоў – нават не ў СССР, а проста ўжо ў пародыю.*

**А. С.: - Скажыце, калі ласка, а ці ёсьць магчымасьць, што ў Беларусі ўсё-ж такі будзе свой фэстываль, і ня трэба будзе ехаць на "Басовішча"?**

*З. П.: - Ну, фэстываляў хапае, яны ёсьць. Але, зноў такі, арганізатары іх на кожным кроку сутыкаюцца з тым, што, нейкі калектыў немагчыма выставіць – атрымліваюць заданьне. Вельмі дзіўныя рэчы адбываюцца, вось ужо прайшло тры фэстывалі "Бітлз-Флаэрэлла", міжнародных, куды з розных краін прыяжджаюць калектывы, якія граюць музыку "Бітлз", і вось ужо другі год запар фэстываль адбываецца пад адкрытым паветрам, пад Лагойскам, і там арганізатары проста дамаўляюцца зь міліцыяй не чапаць тых, хто выходзіць са сьцягамі, а чапляць тых, хто перапіў, падтрымліваць такім чынам парадак. І там усё нармальна адбываецца. Выходзяць людзі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, і іх не забіраюць там. Ці скажам, вось фэстываль, які пачаўся "Рок за Баброй" – там новы бровар беларускі Баброў – ён пачаў ставіць менавіта на беларускіх музыкаў, укладвае вялікія грошы. Адбылося два фэстывалі "Рок за Баброй" і адзін "Вольнае паветра", літаральна, тыдзень таму. Гэтая традыцыя закладваецца. Але я вельмі баюся – чарговы "наезд" на гэты "Бровар" – і зноў усё перарвецца.*

# Басовішча - 2006

*адным мястэчку, дзе цудоўная прырода, сосны высокія, прыгожыя! Як вырашылі, так і зрабілі. Быў вельмі рамантычны 90-ы год, дзеля арганізацыі і правядзеньня фэстываля ня шмат было чаго трэба. Фактычна, першыя два праходзілі на тэрыторыі пагранзаставы, там і сталі намёты. Вось так і пачалося, з такой рамантыкі, а вырасла ўсё ў такую сталую імпрэзу.*

**А. С.: - Сам назоў фэстывалю - "Басовішча" – хто яго прыдумаў?**

*А. Л.: - Дык я яго прыдумаў. Была такая польская імпрэза "Роковіско", я падумаў, што ў назве павінна быць наша арганізацыя, і з назвы "Бас" атрымалася "Басовішча".*

Напрацягу больш за 10 гадоў арганізатарам і кіраўніком фэстывалю быў прафэсар Алег Латышонак. У далейшай размове ён распавёў, што перадаў справы сваёй былой студэнтцы **Ілоне Карпюк**. Яна – мая наступная суразмоўніца.

**А. С.: - Колькі гадоў Вы ўжо займаецеся падрыхтоўкай "Басовішча"?**

*І. К.: - Так атрымліваецца, што ўжо чацьвёрты раз я над ім працую.*

**А. С.: - А сёлетняе "Басовішча" для Вас традыцыйнае, ці былі нейкія зьмены, праблемы пры яго падрыхтоўцы?**

*І. К.: - Здаецца, што ўжо ёсьць вопыт, і праблемы немагчымыя, але ніколі не можаш прадбачыць, што здарыцца, і праблемы выскокваюць. Так што і ў гэтым годзе, хоць мы былі добра падрыхтаваны, былі рэчы, якія аказаліся няспадзяванкамі, былі нечым новым, так што нечаканасьці сустракаюцца пры падрыхтоўцы беларускіх мерапрыемстваў. А калі нешта начаканае здараецца, стараемся гэта паварнуць у пазытыўны бок.*

**А. С.: - Як так атрымалася, што Вы пачалі цікавіцца беларускімі справамі?**

*І. К.: - У мяне гэта было натуральна – былі сувязі зь беларускай мовай, з дыялектнай беларускай мовай праз габрэяў, у школе, у беларускім ліцэі пачалі дзейнічаць дні беларускае культуры, праходзілі канфэрэнцыі, чула мову ў беларускіх фальклорных і рок-гуртах, і тое, што праходзіць сёньня – усё гэта мая сувязь зь беларускай культурай.*

**А. С.: - А Вы сябе адчуваеце духоўна беларускай альбо полькай?**

*І. К.: - Адчуваю сябе беларускай, хаця месца майго жыхарства – польскае.*

**А. С.: - Як даўно Вы былі на Беларусі?**

*І. К.: - Раней значна часьцей бывала, зараз калі толькі на канцэрты да Менску, апошнім разам была, каб не падманваць, у лістападзе мінулага года. Гэта вельмі даўно, і я ўжо затужыла па Беларусі. Я люблю Беларусь.*

**А. С.: - Як па-вашаму, ці ёсьць неякае адрозненьне паміж беларусамі і палякамі?**

*І. К.: - У першую чаргу – мэнтальнасьць, вельмі адрозьніваецца. Па нашам у "польскаму" ўспрыманьню,*



***Выступае гурт "Індыга".***

На сёлетнім фэстывалю сябрам журы быў мой даўні знаёмы, лідар гурту "Жыгімонт Ваза" ***Сяргей Скрыпнічэнка (Скрыпа)***.

**А. С.: - У мяне такое пытаньне да цябе, як да вэтэрана "Басовішча": тое "Басовішча", што адбываецца зараз, у 2006 годзе яно мае якія-небудзь адрозьненьні ад іншых і ў чым гэтая розьніца?**

*С. С.: - На мой погляд, ня вельмі адрозьніваецца, за апошнія гады, што я быў на фэстывалях, яны ўсе даволі роўныя, арганізацыя вельмі добра адладжаная, як-быццам працуе неякі мэханізм, у якім бываюць збоі, але такога, каб зламаўся – ня было, і, спадзяюся, ня будзе.*

**А. С.: - Ты лічыш, што ўзровень арганізацыі адпавядае эўрапэйскаму ці беларускаму?**

*С. С.: - Нічога падобнага ў Беларусі няма, і нажаль, пакуль што ня будзе. А што датычыцца эўрапэйскага – я ня быў так ужо шмат на якіх, але на мой погляд "Басовішча" адрозьніваецца крытэрыем* ***славянскага*** *эўрапэйскага рок-фэстывалю. Каб тут граць – трэба проста ўмець граць, а каб паслухаць канцэрт – трэба проста прыйсьці. У Беларусі існуюць пэўныя ўмовы: каб адыграць канцэрт, трэба кагосьці любіць, а кагосьці ненавідзець – але таго, каго табе скажуць. А каб паслухаць канцэрт, трэба прытрымлівацца адпаведнага стылю ў паводзінах, у адзеньні, яшчэ ў чым-сьці. Тут-жа дастаткова проста прыйсьці, ты, па-просту, свабодны чалавек, можаш быць цьвярозым, можаш быць п'яным, але, галоўнае, каб нікога ня біў, ня крыўдзіў, а слухаў музыку. Калі нехта зваліўся пад дрэвам – нічога, адпачне, прасьпіцца і пойдзе пацыху далей. У гэтым асноўнае адрозьненьне Польшчы.*

**А. С.: - Некалькі словаў пра Беларусь – якая яна зараз?**

*С. С.: - Зараз – застрашаная, мястэчковая, занадта абыякавая. Я магу падабраць толькі тры словы, на мой погляд, гэтага дастаткова, а далей прыйшлося-б выдумляць. Але галоўнае – абыякавая.*

**А. С.: - А як па-твойму, якая будзе праз пятнаццаць год?**

*С. С.: - Адным словам – НЕ АБЫЯКАВАЯ!!!*

**А. С.: - Якімі ты бачыш беларусаў?**

*С. С.: - Я бачу беларусаў эгаістамі. І бачу іх такімі ў будучыні, бо эгаізм – вельмі добрая рыса. Насамрэч,*

***Працяг на наступнай бачыне***

# Нашая фанатэка "Kali-chakra" – беларускае рэха Арыяварты




Вядома, што наш вялікі зямляк, беларуска-польскі паэт Адам Міцкевіч падчас сваіх знакамітых лекцыяў у Французскім Унівэрсітэце называў беларускую мову "...найбагацейшай, найчысцейшай, што была некалі моваю двара і канцыляры Літвы, выяўляла першароднае ўдасканаленне..." ("Literatura Slowiacska wykiadana w Kolegium Francuzkim przez Adama Mickewicza" t.II, Poznan 1865, s.12).

Але што-ж меў на ўвазе Адам Міцкевіч, калі даваў такую незвычайную па тым часе характарыстыку нашай мове? Магчыма, гэта можна будзе зразумець, калі зьвярнуцца да дасьледваньняў сучасных лінгвістаў, якія сьвярджаюць, што і старажытная, і сучасная беларуская мова захавалі ў сваім лексычным слоўніку найбольшую з усіх славянскіх моваў колькасьць словаў, якія маюць сувязь з санскрытам – моваю старажытных арыяў. Пра гэтую роднасьць сьведчыць падобнасьць мноства старажытных словаў ("тата"-бацька, "кавала"-кавалак, глыток, "двора"-дзьверы, "грыва"-шыя, "шаптар"-той, хто кляне і г. д.), а таксама агульнасьць некаторых фанэтычных працэсаў: наяўнасьць у абедзьвюх мовах гуку "ў" (у нескладовае), гуку "дж", фрыкатыўнага "г"...

Тут да часу будзе нагадаць, што самай заўважнай для адмыслоўцаў характарыстыкай блізасьці любой мовы і санскрыта зьяўляецца перавага гуку "а". Так у беларускай мове "а" трапляецца ў 68-74 адсотках моўных выбарак, тады калі ў расейскай толькі 22-25, а ў польскай – 16-17 адсоткаў. У санскрыце-ж – гук "а" сустракаецца ў 66-68 адсотках выбарак слоў. (С. Суднік "Падарожжа ў краіну арыяў" "Літаратура і Мастацтва" ад 9.09.1994 г.). Параўнайце!

З ранніх літаратурна-музычных крыніцаў, кшталту рэлігійных песнапеньняў з тэкстамі "Рыгведы" і "Самаведы", дасьледчыкам вядома, што індыйская музыка, як непаўторны сусьветны мастацкі скарб, стала вынікам сынтэзу музычных формаў розных рэгіёнаў Інды й старажытнай музыкі арыяў. Традыцыйная музыка гэтай краіны зьнітаваная агульнымі законамі рагі (характэрнымі мэлядычнымі схемамі) і рытмовымі асаблівасьцямі талы... Такога кшталту высновы спэцыялістаў сталі тым важнымі для музыкаў гурту "UR'IA" дапушчэньнем, што ў індыйскай музыцы і сёньня можна пачуць водгукі старажытных сьпеваў жыхароў легендарнай прарадзімы беларусаў (які многіх іншых індаэўрапейскіх народаў) – Арыяварты.

І вось альбом гурта "UR'IA" – "Kali-chakra" ("Кола часу") прыйшоў да беларускіх слухачоў (пазьней з гэтай плытай пазнаёміцца і эўрапейцы) і дае свае адказы на пытаньні апраўданасьці і жыцьцядольнасьці вось такога варыянту адаптацыі беларускага фальклёру і самой мэтазгоднасьці спалучэньня яго з індыйскімі музычнымі інструмэнтамі й канонамі, якія маюць своеасаблівыя гарманічныя і танальныя якасьці...

Відавочна, што вынікі гэтых дасьледваньняў натхнілі і далі падставу лідэру "UR'IA" Юрыю Выдронку спалучыць архаічныя фальклёрныя мэлёдыі й рытмы беларусаў – нашчадкаў плямён "крыві" (крывічоў), "гуда", "дровіда" (драўлян), з індыйскім мэлядызмам, у якім рэхам захаваліся адбіткі песнапеньняў часоў Арыяварты. Таму цяперашнюю творчасьць гурту "UR'IA" трэба аднесьці да арыгінальных спробаў рэканструкцыі беларускай музычнай даўніны, рэцэпт якой пасьля доўгага часу экспэрымэнтаў зноў прапанавалі на новым альбоме музыкі "UR'IA". Магчыма таму аўтарства кампазыцыяў, як і некаторых тэкстаў паводле беларускага фальклёру, што запісаныя на альбоме "Kali-chakra" (у адрозьненьне ад папярэдняй "Весначухі") пазначана – Ю. Выдронак.

Некалькі гадоў, якія аддзяляюць першы альбом гурта "UR'IA" "Весначуха" і апошнюю навінку ў дыскаграфіі гэтага гурту – альбом "Kali-chakra" былі напоўненыя пастанным пошукам аптымальнага спалучэньня народных мэлёдыяў, спэцыфічных тэмбраў індыйскага сітара і бубноў, гітарна-лямпавага саунду, да якога музыкі "UR'IA" маюць пэўныя сэнтымэнты.

Што-ж тычыцца знакамітай "фішкі" "UR'IA" – спэцыфічнага гуку, які быў характэрным для року 60-х гадоў мінулага стагодзьдзя і які ўсімі сіламі спрабуе ўвесьці ў музыку "UR'IA" яе лідэр, то і цяпер акустычная эпоха Вудстоку шырока адлюстраваная на гукавых дарожках новага дыску. У гэтым можна ўпэўніцца нават па першай кампазыцыі альбому "А ў лузі, лузі". Распачынаецца яна невялікай рагай для сітара, якая разам з гітарным суправаджэньнем паступова перарастае ў біг-бітавую кампазыцыю з шматгалоснай вакальнай паліфаніяй і гітарнымі сола ў духу гурта Chadors. Потым гэтыя экспэрымэнты знойдуць свой працяг ужо на самай гітовай кампазыцыі альбому "Folk'n'Roll", у якой знаёмая зь дзяцінства гульнёвая мэлёдыя "А мы проса сеялі, сеялі..."становіцца асноваю для рытмічнай кампазыцыі, у якой рок-н-рольную лінію вядуць гітара Ю. Выдронка і сітар Ю.Задзірана.

А вось "Калядка" з новага альбому гэтага гурту нечым нагадала кампазыцыю "Zelen Dubochok" з папярэдняй кружэлкі "Весначуха". Магчыма таму, што разьвіцьцё адбодвух кампазыцыяў адбываецца па складанейшых сюітных законах, а вакал Ю. Выдронка, як і ў названай песьні з "Весначухі", вядзе сапраўдны шаманскі рэй. Але такія параўнаньні з папярэднім альбомам на гэтым можна лічыць завершанымі: гітары industrial "Весначухі" саступае на "Kali-chakra" больш мяккаму world-music. Хаця рэха мінулых захапленьняў можна адчуць і ў некаторых месцах гэтага альбому.

Да канвы кампазыцыі альбому дадаткуецца яшчэ адзін цяперашні складнік лямпава-гітарнага саўнду "UR'IA" – гук аналягавага электрычнага аргану тыпу Hammond (праўда, сёньня ягоны супэртэмбар можа сынтэзаваць любы прасьценькі Korg ці Kurzweil). Сапраўднае вярганьне духу Hammond'у на дыску адбудзецца ў самай незвычайнай кампазыцыі дыска – "На Вялікадню", якая дзякуючы аўтарству і сьпевам Юрыя Выдронка, акордам электрааргана ў сукупнасьці зь "цяжкімі" гітарамі набыла хард-блюзавыя рысы. Сапраўды, у гэтай стылізацыі вельмі акрэсьлена блюзавая схема кампазыцыі, дый голас саліста, нягледзячы на своеасаблівую гарлавую афарбоўку і фальклёрнае інтанаваньне, больш стасуецца з блюзам. Дакладней, з фольк-блюзам.

На дыску прадстаўлены варыянты кампазыцыяў, якія мы ведаем па ранейшай творчасьці гуртоў "Троіца" ("Курка-рябушка", створаная, дарэчы, пад замову UNICEF) і "Палац" ("Русалкі"). Варыянты гэтых песень у выкананьні "UR'IA" больш мэдытатыўныя. У "Русалках" увагу слухачоў прывабіць сола Юрыя Выдронка на жалейцы ў суправаджэньні шматлікіх перкусыйных інструмэнтаў Андруся Сіўца. Вакалісткі "UR'IA" стваpаюць на запісу сапраўдны русалчын вэрхал – антытэзу словам народнай апавядальніцы, запіс голасу якой гучыць у пралогу да "Русалак".



*Юры Выдронак*

Ілона Конюхава і Натальля Матыліцкая сталі сапраўднымі лідэр-вакалісткамі на завяршаючай песні альбому – "Kali-chakra". Гэта кампазыцыя, створана Ю. Выдронкам па матывах беларускага фальклёру, па ягонай задуме павінна завяршаць дыск, які сімбалізуе гадавое "кола часу" беларусаў. Мо таму знаёмы запеў: "Дзе каза топ-топ, там жыта сем коп..." гучыць даволі аптымістычна, хоць ня вельмі спрыяльна для чалавецтва эпоха Калі-чакры, што панавала апошнія 120 год. Паводле астранамічных вылічэньняў старажытных індыйскіх астролягаў гэтая эпоха скончылася 28 траўня 2000 году, а новая – Сац'я-чакра не ўвайшла ў свае правы...

Цікавым дадаткам да музычных трэкаў зьяўляюцца відэазапісы канцэртаў гурту "UR'IA" ў Польшчы і Чэхіі (фольк-фэст "Colors of Ostrava"). На іх зафіксавана многае з таго, што так прывабліве эўрапейцаў да беларускага гурта: высокі прафэсыяналізм выканаўцаў, арыгінальнасьць музычнай ідэі й гучаньня "UR'IA", чароўны артыстызм і вакальныя дадзеныя беларускіх дзяўчат, прыгажосьць і арыгінальнасьць іхных строяў...

Вялікі плюс згаданага дыску "UR'IA" – выкарыстаньне на вокладцы альбому "Kali-chakra" містычных жывапісных твораў знанага беларускага мастака Язэпа Драздовіча. Відавочна, музыкі разумеюць, што і гэтая акалічнасьць працуе на гурт, як на музычную зьяву эўрапейскага кшталту.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ, музычны аналітык**

## БАСОВІШЧА-2006

***Працяг з папярэдняй бачыны***

*калі чалавек думае пра ўсіх, ён не думае пра сябе, ён робіць выгляд, што турбуецца за ўсіх, клапоціцца аб іх, мінавіта так, як у нас выглядае афіцыйная палітыка Беларусі. Як быццам мы такія добрыя, мы браты і сябры ўсім, а ў выніку – нікому. А чалавек павінен дапамагчы ў першую чаргу сябе. У гэтым мае добрыя адносіны да Польшчы. Я абсалютова пераканаены, што палякі думаюць у першую чаргу пра сябе, а не пра беларусаў. Яны хочуць мець добрага суседа побач, яны стараюцца дзеля сябе. А я хачу, каб Беларусь старалася дзеля сябе – побач з сабой хацела бачыць добрага суседа, хацела быць поўнай свабоднымі грамадзянамі. Вось чаму я хачу бачыць беларусаў эгаістамі.*

**А. С. : - Пытаньне як да сябра журы: які ўзровень сёлетняга "Басовішча"?**

**С. С.** : - *Я не магу сказаць, што ўзровень неякі іншы, гэта добры фэстываль, і зараз ён ня горшы і ня лепшы. Безумоўна, нешта зьмяняецца ў арганізацыі, але, як і заўсёды, астатняе залежыць ад музыкаў. Зараз сярод пачаткоўцаў, маладых гуртоў, нехта лепшы, а нехта горшы, а ўжо прафэсыйныя гурты заўсёды нас парадуюць добрай якасьцю гучаньня.*

**А. С. : - У час калі мы размаўляем праходзяць выступы канкурсантаў. Ёсьць фаварыты?**

**С. С.** : - *Сярод канкурсантаў я яшчэ ня вылучыўся, бо яшчэ ня ўсіх пачуў, і таму зараз не магу сказаць. А фаварытам можа быць толькі той, хто будзе таму адпавядаць. Пакуль я не маю ніякіх прэтэнзіяў ці думак, што нехта горшы, а нехта лепшы, я не зацікаўленая асабіста асоба і пакуль разглядаю паводле прынцыпу "падабаецца – не падабаецца".*



**А. С. : - Чаму, калі нейкі гурт "выстрэльвае" у адным годзе, то потым ён неяк затухае, і яго не чуваць ужо пазьней? Ці часта так адбываецца?**

**С. С.** : - *Так часта адбываецца таму, што ў Беларусі занятак музыкай, так ёсьць і так было раней – гэта занятак ў вольны час, калі вольны ад вучобы ці працы. І таму тут нічога дзіўнага няма. Людзі папросту вымушаныя займацца зарабляньнем грошай, што таксама нармальна, і музыка для іх становіцца нечым другасным.*

**А. С. : - І ты лічыш, што можна плюнуць на ідэю вывесьці неякі беларускі гурт на эўрапэйскі ўзровень?**

**С. С.** : - *Шоў-бізнэс – гэта ня нешта абстрактнае, гэта частка агульнага бізнэсу. І таму калі агульнага бізнэсу няма, а ёсьць такі, які "пад дахам", як ка-*

**Заканчэньне на бачыне 15**

# Калі хочаш узмацніць свай дух

## Уражаньні ад паэмы ЗЯНОНА "Вялікае Княства" і ягонай лірыкі




Добра, калі чалавек зь дзяцінства прывучаны і любіць чытаць, бо, як-бы далёка ні "сягнуў" прагрэс, але кніга па-ранейшаму – галоўная ў ягоным разьвіцьці, у росквіце ягонай душы.

У гісторыі кожнага чалавека ёсьць "свае" кнігі, якія ўплываюць на ягоны інтэлект і ўвогуле – на ягонае жыцьцё. І вельмі важна, каб такія "жыцьцявызначальныя" кнігі адначасна ўплывалі-б на духоўнае і эстэтычнае разьвіцьцё чытача. Прыгожае важна заўважаць і захапляцца ім. Тады і чалавек атрымаецца прыгожы.

Усе гэтыя думкі ўзьнікаюць, калі трымаеш у руках кнігу ЗЯНОНА **"Вялікае Княства"**, якая выйшла ў самым канцы 2005 году – узор глыбокага высокага "зьместу" і незвычайна гарманічнага высокамастацкага яе выданьня.

Пагартаем старонкі і пачытаем ЗЯНОНА разам, каб пачуць галасы мінулых стагодзьдзяў. "Рыцар збройны" запрашае нас у сьвет паэзіі Зянона.

"Уступ" да паэмы – тры вершы з сымбалічнымі назвамі: *"Сьвятло", "Белы рыцар", "Шлях"*. Белы рыцар заклікае нас ісьці да свайго шляху, "*Бо толькі калі выйдзем на шлях, Убачым будучыню*".

Зь першага радка паэмы нас агортвае аўтарскі боль: "... не магу зьмірыцца з трагізмам народнага існаваньня". Гэта думка праходзіць скрозь увесь твор, дапамагае і чытачу "ўключыцца" ў гэтую нязгоду. А далей – разгорнутыя карціны беларускага жыцьця.

Галоўны герой паэмы – Зянон, душа якога "пражывае" вялікі гістарычны пэрыяд. Гэта і малады юнак *("Агонь")*, і маленькі хлопчык, і сталы чалавек, наш сучасьнік *("Зямля", "Трэці круг")*. Тое, што ня ў стане "патлумачыць" юнак Зянон ці маленькі хлопчык, "тлумачыць" аўтар паэмы, бо толькі ён ведае, як будуць разгортвацца падзеі далей. Аўтар ведае пра ўсё: што было, што ёсьць і як будзе. А сумяшчэньне розных "узроўняў" апавяданьня (ад дзіцячага да сталага чалавека) надае твору незвычайную цікавасьць і праўдзівасьць.

**Мы захапляемся адданасьцю сваёй Айчыне юнага Зянона, які гіне ў вялікіх мучэньнях, але апошнія ягоныя думкі пра родную Літву. Да сьлёз кранае шчырасьць дзіцячай душы Зянона, які кідаецца абараняць свайго вернага сябра Коську перад бязьлітасным дарослым сьветам. Мы верым сталаму Зянону, які прагне незалежнасьці сваёй Беларусі і гатовы змагацца за яе да канца, які любіць свой народ, любіць усіх: і "добрых", шчырых беларусаў, і заблытаных ў гісторыі, якія** ня бачаць свайго, беларускага, і глядзяць у рот акупантам. Усё гэта – мы, беларусы, і над усімі намі павісла пагроза этнічнага зьнішчэньня.

Калі мы заглянем у мінулае, то ўбачым: усім багата нашая Літва *("Агонь")*: і лясамі ("сосны, як арганы"), і рэчкамі, і вазёрамі. Тут, побач з чалавекам, "бабёр схаваўся", "бацян клякоча", "зайцы скочуць", індыкі, куры, гусі, качкі. Карціну перапоўненасьці стварае і жартаўлівы расказ Шацілы пра дзеда, які "*цягаў вушастых, як грачыху*". Услухаемся ў сялянскую музыку: "*Усё сакоча, галагоча, Індыкоў гайня кулдыча*"; *куры "Грабуць, дзяўбуць сабе, кудахчуць, І квактухі побач квохчуць"; "Бацян клякоча, цюцька брэша"; "Качкі крачуць у карыце"; "Усё квокча і туркоча"; "Ржэ, мычыць (авечкі, козы)"; "Бэкі-мэкі, хрукірохі – Усё вухкае, як багна"*.

Аўтар добра адчувае жыцьцё прыроды. Магутная рэчка Гаўя, якая проста "кішыць" рыбай, захоўвае таямніцы і легенды беларусаў пра тое, што зло абавязкова будзе пакарана (легенда пра "вялікі камень-глыбу").

Тут, у Літве, як і ў мястэчку, жыве магутнейшы народ: "*І цагельня там пад лесам, Нават кафлю выраблялі І глазурам палівалі*". Усё гэта гаворыць пра высокі ўзровень культуры ліцьвінаў. Але ўсё пагарэла, згінула, "*як маскаль у Вільню ўдзёрся*".

З цягам часу мястэчка адраджаецца: "*Іншы рэй рака прастуе, Лёс нанова галасуе*". Але з усходу ідуць усё новыя беды: "*Ноч пілі, а ўдзень палілі, Вынішчалі народ Боскі. Гэткі быў закон маскоўскі*". Але калі ліцьвіны дзейнічаюць аб'яднана – "воўчая парода" бяжыць прэч, бо яе жорсткасьць праяўляецца толькі "ў скопе".

*Калі ж па пысе недзе схопіць,*  
*Ці хто зьнянацку яму ўробіць,*  
*Дык уцякае, як скаціна.*

Пра неабходнасьць нацыянальнага адзінства думаюць юнак Зянон, шляхціч Шаціла, гасьцінны і энэргічны Патрэба. Яны разумеюць, што ворага трэба зьнішчаць да канца, а "*не тады, як нас пяройме*".

Вялікі сум на душы ў Патрэбы і Зянона пакідае гаворка з горотным злодзеем Пятруком. Яго нежаданьне ваяваць за свой край яны ўспрымаюць як агульнанацыянальную бяду ва ўмовах, калі няма агульнай згоды ў шляхты:

*Ніхто так Княства не разваліць,*  
*Як шляхта можна ганарова,*  
*Што для сябе на ўсё гатова.*  
*А дзе ж Айчына, я пытаю?*

У такіх умовах заўсёды гінуць самыя лепшыя. І сьмерць юнака Зянона таксама вынік агульнай разьеднанасьці (адмовы Пуставойта памагчы дабіць ворага).

"Новае жыцьцё" *("Зямля")* працягвае старую цяжкую ліцьвінскую долю. Дзед хлопчыка Зянона працуе на чужой зямлі, ваюе за чужую дзяржаву і змагаецца "*зь кепскай доляй*" "*за жыцьцёва выжываньне*". Працавітага беларуса, як рок, суправаджае зьдзек і рогат несьмяротнага Пятрука, які "*як нап'ецца – спаў пад лавай*".

Далей раскрываецца шырокая карціна нялёгкай сялянскай працы. Мы даведваемся пра тое, пра што сёньня ўжо мала хто й ведае: як увысакародзіць пароплую зямлю: "Карчавалі, высякалі, вырывалі ўсё кустоўе..." За гэтым пералікам – неверагодная праца. Адно толькі карчаваньне – надзвычай цяжкая праца. Тут жа "цяжкія працы" даюцца як пералічэньне дзеяньняў. Затым – пералічэньне "аб'ектаў" гэтых дзеяньняў – і зноў пералік дзеяньняў. Так ствараецца выразная карціна цяжкай працы:

*Карчавалі, высякалі, вырывалі ўсё кустоўе,*  
*Усё лазоўе, ялаўцоўе,*  
*Вольху, вербу і ляшчыну,*  
*Усю ажыну і маліну,*  
*Засыпалі ямы, ровы,*  
*Пакуль цемра вечарова*  
*Дазваляла працаваць*  
*І зямельку ачышчаць.*

Сялянская праца ўвогуле цяжка, а Яўхіму дасталася надзвычай цяжкая. Але "зямелька" – жывая, яна "здольная ацаніць" такую працу, і гэтую яе "здольнасьць" аўтар перадае ёмкімі вобразамі "дзівоснага плёну": "*У дзесяць пальцаў каласы, Кожны трэці – спарышы*"; зерне – "*боб*", грэчка – "*лес*", проса – як "*кадзіла*", лён – "*струны*". І зусім дзівосны вобраз-карціна:

*І ячмень па пояс рос,*  
*Шчэ траха – казыча нос.*

Усім гэтым збожжам дзед "заваліўся" – і мы ўяўляем, як яго шмат. А далей таксама важны момант: распарадзіцца багацьцем. Яўхім гэта ўмее, і гэтае ягонае "ўменьне" перадаецца аўтарам шляхам пералічэньня дзеяньняў. Так лён "*парвалі*", "*павязалі*", "*мочала скапалі*", "*палажылі*", "*замачылі*" – і карціна завершана. І пра ўвесь ураджай: "*распарадзіўся*", "*прадаўшы*", "*аддаўшы*", "*заплаціўшы*", "*змалаціўшы*", "*змалоўшы*", "*спытляваўшы*", "*звальцаваўшы*".

Так завялася вялікая гаспадарка ў Яўхіма, якую ён умее "збудаваць", "захаваць" і разьвіваць. Здавалася – справядлівасьць перамагла. Але – ненадоўга. У выніку запальнай расейскай стралянiны згарэла ўсё да шчэнту: "*Мінула роўна 20 год, І нам ізноў наш круг вярнуўся*".

Другі шлях беларуса ўвасоблены ў лёсе дзеда Яна, выбітнага беларускага дзеяча, магутная праца якога ідзе на ніве Адраджэньня. Але прышлі бальшавікі – і ўсё змарнавалася: і вялікая праца, і жыцьцё.

Трэці беларускі шлях – Стаська. Ён гэтаксама моцна любіць сваю Бацькаўшчыну і прагне шчасьця ў ёй. Хіба гэта несумяшчальна?

І выходзіць, што для Стаські – не, бо шчасьлівым можна стаць толькі ў сваім доме і на сваёй зямлі.

Трагічны лёс беларусаў адлюстраваны ў вобразе Стаські, які спачатку ледзь ні загінуў ад "сваіх" і не ўратаваўся на вайне. Калі ён ад'язджае на вайну, – нечаканы трывожны звон "настройвае" нас на бяду. Угледзімся ў "малюнак" герояў: Ганна "*бледная*", Стаська "*сьцяўся*", "*маўчыць*", Яўхім "*голаў апусьціў*". Далей пра фурманку – як фрагмэнты фільма: "*малела*", "*меншала*", "*зьнікала*", "*й вока не сягала*". І гэтыя "імпульсы" зьнікненьня фурманкі суправаджае звон, які і "*званіў*", і "*біў*". Усё гэта стварае сумны вобраз раставаньня навечна, падмацаванае займеньнікам "*усё*" (як адрэзана):

*"Ну, ўсё – апошняя разора.*  
*Ня будзе ўжо ў нас харома,*  
*Ні нават сосеннага дома,*  
*Мне іншы лёс ужо чакае.*  
*І Стась навекі ад'яжджае".*  
*І Ганна бледная сядзіць.*  
*І Стаська сьцяўся і маўчыць.*  
*Яўхім жа голаў апусьціў,*  
*Як быццам слухаў – звон званіў.*  
*І аддалялася фурманка,*  
*Малела, меншала, зьнікала,*  
*Як бы ўжо й вока не сягала,*  
*І ўсьлед ёй звон званіў і біў,*  
*Як бы аб літасьці прасіў.*

Заўважым, што І-я і 2-я часткі паэмы пачынаюцца радасным і аптымістычным настроем, які паступова зьмяняецца трывогай, болю, пакутамі, стратамі лепшых герояў.

Апошняя частка "*Трэці круг*" пачынаецца зь цёплых і радасных успамінаў хлопчыка пра дзяцінства. Ён расьце бяз бацькі, але ягоныя родныя робяць усё, каб ён ня стаўся абдзеленым ні ласкай, ні увагай, ні строгасьцю, ні любоўю. Узор выхаваньня ў хрысьціянскай традыцыі хлопчыка Зянона падае ўся сям'я: і маці Ганна, і дзед Яўхім, і бабуля Фэля, дзякуючы якім ягоны бацька заўсёды "прысутнічае" і як бы ацэньвае ўсё, што адбываецца з сынам:

*Усё дзяцінства бацькі культ*  
*У доме быў нязьменны.*

Дзед ставіцца да дзіцяці, як да дарослага:

*Зараз станем працаваць*  
*(Было мне, можа, гадкоў пяць),*  
*А ты будзеш памагаць.*

Ён як-бы і ня "вучыць", а проста падказвае ўнуку, умее хутка пераключыць ягоную ўвагу, "загаварыць" яго, каб той не заплакаў. Ён раскрывае ўнуку сьвет, тлумачыць, расказвае, і хлопчык спасьцігае дзедаву навуку. Дзяцінства, нягледзячы на вельмі цяжкія часы, праходзіць (што вельмі важна для фармаваньня асобы) ў любові: "*От гэты сьвет мне падабаўся*".

Калі-ж Зянон падрастае, ягоны "сьвет" пашыраецца. "*Тады ўжо скончылась прывольле*", – да гэтай высновы падводзяць і страшныя рэаліі савецкай школы, і акаляючае цяжкое пасьляваеннае жыцьцё ва ўмовах новай акупанцкай улады зь яе "калкозам", "абагульненьнем", несправядлівымі падаткамі. Але самай страшнай школай жыцьця для хлопчыка Зянона становіцца бязьлітасныя зьдзекі над ягоным любімым конікам Коськам. Гэта ён запомніць на ўсё жыцьцё.

Надзвычай лірычныя радкі прысьвечаныя Вільні: "*О, горад гарадоў! Духоўны наш упор*". Аўтар ведае тут усё да драбніц і зь пяшчотай гаворыць пра сваё замілаваньне Віленскім краем. Рэзкім болем аддаецца яе трагічная гісторыя (якая паўтарае трагічны лёс народа): "*Якая злосная насьмешка!*"

Але народ тут застаўся, ён наш, беларускі. Аўтар вельмі тонка і дакладна абмалёўвае галоўнае ў нацыянальным характары беларусаў, па чым немагчыма яго зблытаць ні зь якім іншым народам. Гэта сьціпласьць, самавітасьць і абсалютова натуральныя паводзіны, ніякай штучнасьці:

*Са скуры тут ніхто ня скача*  
*(Глядзіце, ён вялікі мача),*  
*За грош сябе не выстаўляе,*  
*Як быццам ён мільёны мае,*  
*А сам бяз портак шчыгаляе.*

Кожны народ мае сваё, адметнае. І "свайго" пазнаеш заўсёды, калі апынешся ў чужым асяродзьдзі (хай сабе і ў блізкім). Так і мы з палякамі: у нечым блізкія, але і вельмі розныя. І свайго мы пазнаём, як пазнае аўтар (нават з заплюшчанымі вачыма) Вяльлю і Гаўю: "*Бо пахнуць роўна між сабою*".

Так сталася, што ў вялікага народу забралі ягонае імя і ягоную сталіцу Вільню – і ў народзе нешта зрушылася: гавораць,

***Заканчэньне на наступнай бачыне***

# "Вялікае Княства"

*Заканчэньне з папярэдняй бачыны*

як спрадвеку, па-беларуску, а кужуць: *"Мы размаўляем тут па-польску"*. Яны ўжо і не прызнаюцца Беларусі...

Але аўтар не абураецца, не "трымае сэрца" на гэтых людзей, бо галоўнае ў сутнасьці, а па сутнасьці яны – свае, беларусы. Яны – захавальнікі нашага роду, хоць і ня ведаюць пра гэта. *"Люблю я наш народ віленскі, Зь беларушчызнай і з пальшчызнай"*, – і гэтая думка аўтара гуманная і правільная. Зьменяцца часы, зьменяцца абставіны – зьменяцца і "настрої" віленчукоў. Народ-жа застанецца, і будзе біць чыстая вадзіца з агульнай беларускай крынічкі. Гэта ўсьвядоміць вельмі важна.

А далей гучыць мэлёдыя вялікай тугі і смутку. Вымушаная разлука з Бацькаўшчынай нараджае надзвычай тонкую і высокую мэлёдыю. Так выказаць сваю тугу можа толькі "збалелая душа". Паслухайце:

*О, Віленшчызна! Мой краю мілы,*
*Мой прыгожы!*
*Тваёй красою заварожан.*
*Пазнаць цябе па лёсу пожнях*
*Яшчэ хацеў бы. Мо' ня позна*
*Ізноў да сьцен тваіх вярнуцца,*
*Хоць вайкалакам абярнуцца,*
*Каб на мяжы ніхто ня ўбачыў,*
*Прыйсьці, упасьць і ціха плакаць.*

Увогуле, пра паэму гаварыць можна бяскорнца: пра вершы, якія чытаюцца лёгка, пра сюжэт, які захоплівае, пра яе інфармацыйна-энцыкляпэдычны аспэкт, пра магутную беларускую мову, пра мастацкія вобразы, і як усё гэтае багацьце падпарадкаванае ідэі, як выяўляе яе. З паэмы вынікае: мы – вялікі народ і вялікая зямля. І павінны жыць належна. У нас ёсьць незьлічоныя скарбы, зямля наша багатая, але самы вышэйшы скарб – наш народ, мы самыя.

Паэма шматгранная, яна ахоплівае беларускую бяду з розных бакоў і на розных узроўнях. І гэта тычыцца кожнага беларуса. Ісьціна ўжо існуе, аб ёй ня трэба спрачацца, нам толькі засталося пачуць самых сябе.

Асабіста мяне (у каторы раз) паэма пераконвае: калі гаворыць ЗЯНОН, яго трэба слухаць, бо ён гаворыць вельмі мудрыя, разумныя, добрыя і прыгожыя словы.

* * *

У працяг паэмы – лірыка. У лірычнага героя душа рыцара. Ён запрашае нас у дзівосную краіну – *"у нашае Княства"* –. Побач зь лірычным героем-рыцарам яго верны сябра – белы конь: *"І ціха ржэць, І капытамі зямлю б'ець..."*

Вершы-разважаньні. Лірычны герой як-бы піша свой дзёньнік, дзёньнік свайго сэрца і душы.

Калі чытаеш вершы Зянона, душа напаўняецца радасьцю, хоць матывы вершаў – розныя. Тут і туга па страчаным скарбе – Вялікім Княстве – і сум па тым, што не збылося, і надзея на будучае, і замілаваньне сваёй зямлёй.

Гэтая радасьць душы нараджаецца таму, што яна цягнецца, ўсьлед за Зянонам, да сьветлага, вольнага, прыгожага – да Вялікага Княства. Услухайцеся ў гэтае харaство:

*Пасьвяцца коні ўначы над Гаўёй.*
*Цеплыня.*
*І ціха журліць вада.*

Хочацца сказаць яшчэ і пра самую кнігу, пра тое, як яна афармленая, бо гэта дзівосна прыгожае выданьне. Мастацкі густ ва ўсім.

Вельмі ёмкае слова – "зямля". Гэта і Бацькаўшчына-Айчына, і крыніца жыцьця. На вокладцы кнігі – зямля. І прыгожая, і непрыгожая, як разараная-ўзараная. Зь яе можа вырасьці-ўзрасьці ўсё, што захоча беларус.

А на трэцяй і чацьвёртай старонцы вокладкі мы бачым, які цуд расьце на гэтай нашай зямельцы. Магутныя дрэвы-волаты ў купе (сіла і моц!) і пяшчотныя вясновыя лісточкі. А яшчэ мы ўглядаемся ў глыбокія вочы паэта...

Далей мы бачым рыцара – сымбаль надзейнасьці, апоры, высакародства. Ён і "суправаджае" нас па дарозе Зянонавай паэзіі.

Кожная ілюстрацыя сьведчыць, што іх рабіў мастак з тонкай душой. Яны адпавядаюць настроям паэмы і ўзмацняюць яе ўспрыняцьце. Тут увасоблена замілаваньне полем (і зайчыкам), магутнай Гаўяй, і беларускімі прыгажунямі, і вечаровымі Суботнікамі, і магутным дрэвам, і бязьмежным збожжам, і дарогай. Мы ўглядаемся ў "буйны плян" *("Палявая дарога на Віленшчыне")* і ў дзівосныя фрагмэнты *("Шышкі", "Трава", "Хвоя")*. А фрагмэнт росьпіcу Нясьвіскага касьцёлу ілюструе духоўную веліч і мастацкую вышыню беларусаў.

А вось фатаграфіі, якія перадаюць "рух" вершніка Зянона *("Уздоўж дарогі", "Поле")*. І раптам – *"Дарога, якая мне зьнічыла"*. Ілюстрацыя суправаджае разьдзел *"Апошняя дарога"* і стварае адпаведны настрой.

Далей у фатаграфіі паступова "ўваходзіць" трывога *("Лясныя нетры", "Ноч у лесе"*. І раптам – чырвона-сіня-чорны "касьмічны" пэйзаж, які "кладзецца" на разьдзел *"Сьмерць"*.

Далей – неверагодная прыгажосьць бярозавага лісьця і *"Азёрная Беларусь"*, *"Браслаў з гары Замковай"* – гэта душа юнака Зянона аглядае сваю Бацькаўшчыну з вышыні.

А потым душа ляціць на неба – і мы бачым дзівоснае трывожнае воблака. *"Зь яго ўтварылася Абліччa"*... І незямны каляровы фота-рай (*"Сакура – Боскае цьвіценьне", "Магнолія"*).

*Як толькі гляну – сьвет другі,*
*Як бы ня наскі,*
*Трава, аблокі, як у казцы,*
*І кветкі ласкава цьвітуць,*
*І пчолы радасна гудуць,*
*І дрэвы ў гору вецьце мкнуць.*

Але гэты "рай" абрываецца чорна-белай ілюстрацыяй другой часткі: зямля і араты. І дзівосны здымак *"Жняя"*. "Плачуць" фатаграфіі, калі гаворка ідзе пра Яна і Стаську.

*"Трэці круг"* пачынаецца з фота беларускага грамадзкага ўзрушэньня. Далей ілюстрацыі савецкіх часоў. Асабліва ўражвае *"Сьцяна"* – жудасная, страшная, як сымбаль саветаў.

Зусім іншы водэарад – Вільня і ваколіцы, яе архітэктурная "застыўшая музыка". І завяршае паэму наш сьвяты *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг.*

Дык не зважайма на злобнае шыпеньне ворагаў, на бязьвер'е "сваіх", на цяжкі свой шлях. Мы пераможам, бо з намі – Бог.

Пойдзем разам, як Зянон, "адзінай сваёй дарогай".

**Марыля ЯКУШЭВІЧ**

# БАСОВІШЧА-2006

*Заканчэньне з бачыны 13*

*жуць, выгодны дзяржаве, то і шоў-бізнес такі. Паглядзіце зараз на гэтыя філярманічныя канцэрты сьпевакоў – гэта людзі, якія вельмі строга выконваюць дзяржаўную праграму і ня больш. Там проста няма гутаркі пра нейкі ўзровень прафэсійны ці непрафэсійны. Галоўнае – адпавядаць ідэалагічным устаноўкам.*

**А. С. : - У Беларусі шмат талентаў...**

**С. С.** : *- Талентаў шмат у кожнай краіне!*

**А. С. : - Акрамя грошай, што яшчэ патрэбна, каб выбіцца?**

**С. С.** : *- Ну, тут не сам факт грошай, а факт заняцьця музыкай. Калі чалавек нечым займаецца, каб дасягнуць нейкіх посьпехаў, ён павінен гэтым займацца стала. Напрыклад, калі чалавек займаецца бодыбілдынгам – ён не проста там нейкія гантэлі падымае, а ён гэта робіць паводле нейкай сыстэмы ўвесь час, каб увесь час быць у форме. Тое-ж самае можна сказаць пра пісьменьніка, пра музыку, пра нарколяга, пра праграміста. Чалавек тады падтрымлівае сталы ўзровень дзейнасьці, калі ён увесь час гэтым займаецца. Калі музыкі стала не займаюцца музыкай, то ўсё фрагмэнтарна. І таму фрагмэнтарна нехта сёньня зрабіў лепш, заўтра яшчэ нехта лепш, і няма прынцыпу разьвіцьця шоў-бізнэсу.*

**А. С. : - Тое, што сёньня ў Беларусі склалася такая сытуацыя, што рок загналі ў падпольле, гэта спрыяе прафэсыйнаму разьвіцьцю?**

**С. С.** : *- Я скажу так – ёсьць такія міты, якія існуюць, і людзі іх паўтараюць, нават не імкнуцца неяк абмеркаваць. Адзін з такіх мітаў : галодны мастак – вось ён робіць. Гэта ўсё лухта. Безумоўна, калі чалавек, як кажуць, затлусьцеў, то гэта можа і не самае лепшае, калі чалавек галодны – ведаеце, як піраміда Maslou, псыхалёгію на першым курсе кожнага ВНУ вывучаюць, - ён і ёсьць галодны і думае толькі аб тым, каб стаць не галодным.*

Крышку адыйдзем ад музыкі. Наступная мая суразмоўніца – беларуская пісьменьніца, якая жыве ў Беластоку, **Міра Лукша.**

**А. С. : - Скажыце, Міра, Вы нарадзіліся ў Польшчы?**

**М. Л.** : *- Я нарадзілася на Беласточчыне. Яна заўсёды была беларускаю. Тут мы і ёсьць беларусы, проста з часоў ВКЛ былі тут вольныя вёскі, гаварылася "Падлашша", практычна, воля тут была большая, чым на ўсёй Эўропе.*

**А. С. : - Дык Вы насамрэч беларуска?**

**М. Л.** : *- Сама ўжо ня ведаю, хто я, але нос у мяне такі беларускі!*

**А. С : - Вы беларуская пісьменніца, пішаце кнігі. Ці шмат маеце чытачоў?**



**М.Л.** : *- Пісаць я пачала даўно, калі яшчэ былі ідэалягічныя аддзелы, таму было рашэньне партыі, што будуць створаныя беларускія часапісы. З 1958 году існуе беларускае літаратурнае аб'яднаньне "Белавежа", дзе друкуюцца Сакрат Яновіч, Ян Чыгрын, Алег Латышонак як гісторык, такое старэйшае пакаленьне, але і не старое, гэта як сказаць – і я там друкавалася.*

**А.С. - На "Басовішчы" здарыўся амаль што цуд – тут усе, незалежна аднацыянальнасьці, беларусы...**

**М.Л.** : *- Гэта ніякі ня цуд здараецца – той, хто хоча быць беларусам, будзе ім.*

Залатыя словы.

Раней, нажаль, мне не даводзілася бываць на фэстывалі і бачыць яго на ўласныя вочы. Штогод пра "Басовішча" шмат пішацца водгукаў і рэцэнзій. Фэстываль заўсёды адкрывае новыя імёны. Але асабіста я сёлета не пачуў тых, каго можна было-б назваць адкрыцьцём. Маю думку працягвае легендарны музыка, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай рок-культуры, лідэр гурту"Уліс" **Слава Корань.**

**А.С.: - Сёньня мы праслухалі выступленьні канкурсантаў, якія, нажаль, былі ўсе амаль што аднолькавыя. Ці можам мы чакаць у наступным годзе, што маладыя беларускі рок можа быць больш сацыяльны і несьці на сабе вышэйшую сэнсавую нагрузку?**

**С.К.** : *- Ведаеш, летась таксама ўсе казалі, што выступы аднолькавыя. Гэта было год таму. І сёлета зьмянілі журы, і зрабілі шмат, каб стала неяк інакш. Але, як аказалася, нешта іншае цяжка чакаць. Тое, што ёсьць – тое і павінна быць. У Беларусі ёсьць рок, значыць, яго трэба прывязьці, ёсьць музыка маладой Беларусі. І ня трэба нічога рабіць, каб не было гэтага рока. Вось, напрыклад, леташняе журы, што прымала ўдзел у адборачным туры, яно было зацікаўлена рок зьнішчыць, і прывезьці сюды нешта, па іх словах, "больш пазытыўнае". Але нашае жыцьцё зараз не пазытыўнае, і рок не можа быць пазытыўным. А калі будзе пазытыўнае жыцьцё, то і рок будзе пазытыўным. Вось што я магу сказаць на гэты конт.*

**А.С.: - А музыкі, якія адчуваюць нешта большае, чым звычайныя людзі, яны даюць нейкі штуршок, а вось зараз мы гэтага не адчулі. Да чагосьці мы павінны ісьці, магчыма, тое, чаго мы чакаем ад року, гэта каб музыка маладых да чагосьці клікала?**

**С.К.** : *- Я не лічу, што трэба заклікаць да чагосьці, але я лічу, што на сцэну трэба выходзіць, і рок-музыкі тады павінны выходзіць на сцэну, калі яны ведаюць, навошта яны гэта робяць. А калі ты ня ведаеш гэтага, дык ты проста сьпяваеш сабе толькі, каб сьпяваць. Гэта ўжо ня рок. Калі будзе так, як павінна быць, хоць сёлета было і ня так, то, я лічу, будзе на "Басовішчы" рок-музыка і прагрэсійная, і пазытыўная.*

Вось які яно было, сёлетняе"Басовішча". Спадзяюся, што ў наступным годзе мы пачуем маладыя, жорсткія, бадзёры, жывы Беларускі Рок.

**Гутарыў і запісаў Аўген СІДОРЫК**

## Памяці М. Улашчыка

*Заканчэньне з бачыны 8*

гароў, воляю іх камандзіра наказана адыйсьці ад братняе магілы самаахвярнікаў: "А ты, Улашчык, жыві!". Застацца жыць пад разьвітальны роздумзапавет: "Зерне кінута, па вясьне ўгрэецца глеба, настане вясна...".

Не надарылася ў свой час пацікавіцца ў Васіля Ўладзіміравіча пра творчую каруляцыю імяслова Ўлашчык – паміж слуцкім паўстанцам і нашым Гісторыкам. Вядома, аднак, пра заангажаванае стаўленьне аўтара "Мёртвым не баліць" да навуковых адкрыцьцяў маскоўскага беларуса, іх ліставаньне. У кожным разе і Мікалай Улашчык выжыў і зьдзейсьніўся згодна з разьвітальным запаветам слуцкіх паўстанцаў з "Чорных лядаў": "Зерне кінута, па вясне ўгрэецца глеба..." І хоць воін загінуў, ня вернецца, ды "заўсёды вяртаецца сейбіт" (А. Разанаў).

Палетак Улашчыкаў рунее, каласуе, адорваючы наступнікаў шчодрым плёнам.

Пасьля публікацыі гэтых старонак у "Arche" (у рэдакцыйным скарачэнні) я атрымаў ліст ад Вітаўта Кіпеля. Наш руплівы амэрыканскі Беларус сярод іншага дадае кранальныя дэталі да Ўлашчыкавае змагарнае легенды: "Недзе ў 2-й палове 60-х гадоў мой бацька Яўхім Кіпель вычытаў, што Мікола Ўлашчык жыве! Тады мне й Зоры Яўхім Кіпель сказаў прыблізна так: "Мікола жыве. Значыць не пайшло так, як плянавалася. Мы зь Міколам у Налінску абмяркоўвалі ягоныя ўцёкі, і я яму даў цыяністы калій на выпадак, калі яму стане неўмагату. Відаць нешта пайшло іначай," – так закончыў аб гэтым Я. Кіпель. Далей бацька загаварыў так: "Я цяпер пішу ўспаміны, але аб гэтым выпадку ня буду гаварыць "простым тэкстам", скажу неяк інакш! (Так Вы, Аляксей, і зразумелі!!!). Так бацька і напісаў у "Эпізодах". Тады, калі "Эпізоды" рэдагаваліся", мы з Зораю нічога не мянялі. З гэтага ўсяго трэба рабіць высноў: моцны чалавек быў М. Улашчык. Ён сказаў, што цыяністы калій украў! Схіляюся перад сілай духу ў тагачасных дзеячоў... Добра, што мы ведалі такіх людзей."

Калега Вітаўт інсьпіруе іншы, мабыць дакладнейшы ракурс спасьціжэньня Ўлашчыкавае асобы: Чалавек моцнага духу, наталяцца імем і чынам якога не аднаму пакаленьню беларусаў.

**Аляксей КАЎКА**




*Экслібрыс М. Улашчыка. Мастак М. Купава*

## Паседжаньне Прызыдыюму Рады БНР

*Заканчэньне з бачыны 1*

Фонду, прафэсар Нью-Ёрскага ўнівэрсытэту Алла Орса-Романо падзялілася сваімі ўражаньнямі пра нядаўнюю паездку на Беласточчыну.

Другі бок асьветніцкай дзейнасьці накіраваны на інфармаваньне палітычнай, інтэлектуальнай і культурніцкай элітаў Захаду. Так, сёлета у траўні Івонка Сурвілла зрабіла даклад пра Беларусь ў рамках праграмы франкамоўных дакладаў пра мастацтва для былых урадаўцаў фэдэральнага ўраду. У Таронта, на Ёркскім унівэрсытэце сп. Сурвілла ўзяла ўдзел у Канфэрэнцы Славістаў Канады. Дарэчы, гэтая канфэрэнцыя выкарыстоўваецца ад 1989 году ля інфармаваньня навукоўцаў пра Беларусь. У розныя часы на ёй мелі выступы Зора і Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік, Галіна Русак, Алла Орса-Романо, Зіна Гімпілевіч, Ірына Лысенка, Паўлінка Сурвілла. Сёлета Старшыня Рады БНР прысьвяціла свой выступ Чарнобылю.

На паседжаньні Прэзыдыюму Рады БНР разглядаліся пытаньні дзейнасьці Фундацыі імя П. Крэчэўскага (інфармацыю даў Валер Дворнік), а таксама захаваньня дыяспарай кватэры ў Парыжы, зь якой зьвязана шмат у гісторыі беларускай дыяспары **(гл. на гэтую тэму артыкул на бач. 3 – *Рэдакцыя*)**.

Зянон Пазьняк, які браў удзел у паседжаньні, распавёў пра свае сустрэчы зь беларускімі студэнтамі ў Варшаве: "Калі ў каго і застаюцца яшчэ пэсымістычныя прагнозы наконт Беларусі, пасьля гутарак з такімі хлопцамі і дзяўчатамі яны-б зьніклі".



*Спн.Івонка Сурвілла вядзе паседжаньне.*

У дзень Перамяненьня Гасподняга (6 жніўня 2006 году) у катэдры Сьв. Яна Хрысьціцеля (Парма, Агаё) быў высьвечаны на сьвятара грэка-каталіцкі дыякан Ігар Лабацэвіч, родам зь Менску. Прысутныя былі каля 100 чалавек, некаторыя зь Беларусі. Сьвятар Ігар надалей будзе служыць у паўночным Агаё, у прыходах Амэрыканскай Бізантынскай (грэка-каталіцкай) епархіі Пармы.

Калі хто зь беларускіх каталікоў у ЗША мае пытаньні да сьвятара Ігара, калі ласка, зьвяртайцеся па адрасу: ***miensk@sbcglobal.net***

Парафіяльная Рада й сястрыцтва Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага
***401 Atlantic Avenue, Brooklyn, NY***

запрашаюць Вас на

# БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

які будзе ў нядзелю, **17 верасьня 2006 году**
ў грамадзкай залі Сабору й на вуліцы падчас вялікага амэрыканскага кірмашу **"ATLANTIC ANTIC"**.

Вас будуць чакаць смачныя беларускія стравы, родныя песьні й музыка ды зямляцкае таварыства.

Пачатак фэстывалю апаўдні.

Прыходзьце самыя, прывозьце з сабою сям'ю ды клічце прыяцеляў і знаёмых.

### Віншуем

***Уладыку ЮРЫЯ, архіяпіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай (Народнай) Царквы, з 73-мі ўгодкамі з дня нараджэньня. Зычым здароў'я і вытрываласьці на Божай ніве.***

### Віншуем

***Інжэнера Кастуся ВАЙЦЯХОЎСКАГА, шматгадовага актыўнага ўдзельніка грамадзкага жыцьця і падпісчыка газэты "Беларус" з 80-годзьдзем зь дня нараджэньня. Жадаем здароўя і посьпехаў.***

### Удакладненьне

У "Беларусе" № 523 за жнівень 2006 г. была зробленая памылка ў "Звароце да беларускай эміграцыі".

Правільны нумар рахунку сп. Аляксандра Адзінца зь Нямеччыны, аўтара кніг ўспамінаў, наступны:
**Aliaksandr Adzinets IBAN: DE26796500000500815253 BIC: BYLADEM1MIL**

Ахвяраваньні, калі ласка, дасылайце на гэты рахунак.

Паштовы адрас сп. А. Адзінца:
***Aliaksandr Adzinets***
***Hintere Dorfstr.20***
***63834 Sulzbach am Main***
***GERMANY***

### Газэта "БЕЛАРУС"

***бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.***

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| К. Акула | 90 |
| П. Каян | 35 |
| Л. Стагановіч | 30 |
| С. Трыгубовіч | 30 |
| Л. Шурак | 30 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна: *Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***
Subscription $30 yearly
Make checks payable to ***BIELARUS***

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.

Адрас для допісаў і кантактаў:
***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
E-mail:
***hazetabielarus@att.net***
Сусьветнае сеціва:
***www.bielarus.org***
ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэкламадаўца.